# ЗВАНІЦА

ЧАСАПІС

БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗКА — НАЦЫЯНАЛЬНАГА

КЛЮБУ Ў ЛЁНДАНЕ



ЛЁНДАН

З В А Н І Ц А

ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДЗКА-НАЦЫЯНАЛЬНАГА

КЛЮБУ У ЛЁНДАНЕ

№ 4 СТУДЗЕНЬ 1981 ГОД. ГОД ВЫДАНЬНЯ 3.

ГЭТЫ НУМАР "ЗВАНІЦЫ" МЕУ БЫЦЬ ВЫДАНЫ У КАНЦЫ МІНУЛАГА ГОДУ. БЫЛІ ПЭУНЫЯ ПЕРАШКОДЫ НЕЗАЛЕЖНЫЯ АД РЭДАКЦЫІ. ЗА СПАЗЬНЕНЬНЕ РЭДАКЦЫЯ ПЕРАПРАШАЕ ПАДПІШЧЫКАУ,ЧЫТАЧОУ І ПРЫХІЛЬНІКАУ,ЖАДАЮЧЫ УСІМ НАЙЛЕПШЫХ ПОСЬПЕХАУ У ІХ УЧЫНКАХ, АСАБІСТЫХ І ГРАМАДЗКІХ У НОВЫМ 1981 ГОДЗЕ.

## НОВАЯ ЭРА ?

Распачаўся новы 1981 год, новая дэкада пад знакам штораз больш захмуранай, а нават эксплёзыўнай міжнароднай сытуацыі. Мінулыя дэкады, а асабліва некалькі апошніх гадоў былі выняткова багатыя ў выдарэньні сусьветнага характару. Падсумаваўшы іх, трэба прыйсьці да высnаву, што як да гэтага часу,калі ходзіць аб тэрытарыяльныя заваяваньні непасрэдна, або праз трэнаваных і фінансаваных Масквой Ветнамцаў, Кубанцаў ці іншых падрыўных элемэнтаў на іншых кантынэнтах,-баланс выпаў на карысьць маскоўскага агрэсыўнага камуністычнага імпэрыялізму.

Чаму так сталася? Ці экспансыя будзе ўстрымана? Ці палітыка гэта ў канчатковым рэзультаце ня будзе самазабойчай для СССР? Каб адказаць на гэтыя пытаньні трэба зрабіць кароткую аналізу паваеннага пэрыяду.

Ад апошняй вайны праз звыш 35 гадоў палітыка Захаду вялася на ўзаемна ўзгодненым прынцыпе званым "дэтэнтэ", што ў тэрміналёгіі заходняй азначае сужыцьцё, мірнае супрацоўніцтва сыстэмаў дэмакратычных і камуністычных, нацыянальнае самавызначэньне згодна са свабодна выражанай воляй народу. Свабода сумленьня, рэлігіі і акцыі палітычнай, узаемная абмена культурнымі вартасьцямі, тэхнічнымі, а найгалаўнейшае-аграніченьне ўзбраеньня, у першую чаргу атамнага. Да гэтага, эвэнтуальныя канфлікты паміж дзяржавамі павінны быць вырашаны пакаёвым спосабам.

Гэтыя ўсе высакародныя прынцыпы былі залегалізаваныя дабравольным утварэньнем Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў у 1945 г. пры ўдзеле 51 дзяржаў-закладчыкаў уключна з БССР і цэлым шэрагам міжнародных дагавораў як Унівэрсальная Дэклярацыя Правоў Чалавека, Міжнародныя Ковэнанты Людзкіх /Нацыянальных/ Правоў, Дагавор аб Дэкалянізацыі / запрапанаваны Саветамі і зацьверджаны праз А А Н/, пры чым пад усімі дагаворамі фігуруюць подпісы і маскоўскіх прадстаўнікоў.

Рэзультат вядомы. Заходнія дзяржавы амаль поўнасьцю зрэалізавалі прынятыя на сябе забавязаньні творачы звыш 70 незалежных дзяржаў з даўнейшых каленіяў, якія цяпер уваходзяць як поўнапраўныя члены ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацыяў/ пад канец 1980 году да ААН належала 156 дзяржаў/. Захад дазволіў і афіцыяльна прызнаў права на свабоду дзейнасьці ў сваіх дзяржавах нават варожым палітычным партыям і арганізацыям, не выключаючы камуністычных, якія зьяўляюцца лёяльнымі і паслухмянымі, часта платнымі сьляпымі выканаўцамі загадаў бальшавіцкіх маскоўскіх тыранаў. Дарэчы,у некаторых Заходніх краінах гэтыя правы і свабоды ад канца мінулага стагодзьдзя ніколі не былі агранічаны, дзеля чаго розныя палітычныя групоўкі, найбольш актыўныя камуністычныя, маглі свабодна прапагандаваць свае тэорыі і дактрыны ў слове і друку, а таксама арганізаваць прышлых дывэрсантаў-рэвалюцыянэраў. Выкарысталі яны Рэвалюцыю ў 1917 годзе захапіўшы падступна уладу ў Расеі з рук Тымчасовага ураду Керанскага ў свае капцюры і да гэтага часу праз 63 гады трымаюць многанацыянальную каляніяльную імпэрыю званай СССР у стане найбольш жорсткага ў гісторыі чалавецтва нявольніцтва пры прымяненьні найбольш жорсткіх і крывавых мэтадаў дзеля ўтрыманьня гэтай улады.

Па Рэвалюцыі, у барацьбе з рэлігіяй, з класам "эксплуататараў", даўнейшымі царскімі ўрадоўцамі, "кулакамі", апазыцыянэрамі, у пераважнай бальшыні толькі прыпушчальнымі,прыпушчэньнямі, бальшавікі зліквідавалі звыж аднэй чацьвёртай усяго насельніцтва /"вывели в расход"-паводле тэрміналёгіі даўнейшых НКВДыстаў, цяперашніх КГБістаў/. Застаўся, здавалася-б, толькі адзін клас, клас пралетарыяту. Створана бяскласавае грамадзтва дзе ня будзе эксплуатацыі чалавека чалавекам, дзе ўсе будуць роўнымі і згодна з наказам Леніна, міністар ня будзе мець большай зарплаты ад выкваліфікаванага работніка.

Гэта тэорыя, а рэчаістасьць?

Як кожнаму сёньня ведама, рэчаістасьць у СССР ёсьць дыямэтральна супярэчнай з іх уласнымі прынцыпамі, з собскімі выданымі Вярхоўным Саветам законамі і з зацьверджанымі міжнароднымі дагаворамі. Чаму такі парадокс? Бо прынцыпы, як успомнёна, у значнай меры пакрываюцца з дактрынай найвышэйшага аўтарытэту камуністаў, бо самога Леніна і знайшлі яны адбіцьцё у ваўсіх савецкіх канстытуцыях, для прыкладу, адносна свабоднага самастанаўленьня народаў, а нават права кожнай савецкай рэспублікі "СВАБОДНАГА ВЫХАДУ З СССР".

Зразумела, што гэтыя паперовыя правы і свабоды ніколі не былі перасьцераганы ці дазволены ў СССР. Наадварот. Кожная агітацыя ці спроба "выхаду з СССР" паводле Карнага Кадэксу ёсьць найвялікшым дзяржаўным злачынствам, якое " карается высшей мерой уголовного наказания-расстрэлом с конфискацией всего имущества" /вынятак з артыкулу 58 Карнага Кадэксу/.

Варта прывесьці выказаньне аднаго з найвялікшых сёньня экспэртаў маскоўскай камуністычнай сыстэмы, Солжэніцына. Паводле яго, камуністычная маральнасьць ёсьць паняцьце рэлятыўным і апраўдывае ўсялякія злачынствы як хлусьня, фалшывая прапаганда, фалшывае абвінавачаньне варожых дзеячоў іншых дзяржаў,



шантаж, нават мардэрствы, часамі масавыя ў змаганьні за рэалізацыю камуністычнай ідэі, якой ёсьць апанаваньне ўсяго сьвету.

У маскоўскай камуністычнай сыстэме пастановы робяцца сакрэтна некалькімі безадказнымі асобамі з Палітбюра, якія стаяць понад і поза правам і законам. Іх інструкцыі-гэта наказ для ўрадаў так званых рэспублік і КГБ, якія выконваюцца пэдантычна і безкрытычна. Канстытуцыя і некаторыя лібэральныя законы прызначаны выключна для вонкавай прапаганды.

Усё гэта добра ведама палітычным дзеячам і наагул людзям Захаду. Ня гледзячы на гэта, заключаюць яны з Саветамі розныя дагаворы, ведаючы, што савецкая інтэрпрэтацыя іх будзе давольнай і аднабокай. Масква пасьля другой вайны не пазбылася нават дробнай часткі сваей каляніяльнай імпэрыі. Не дазволіла адлучыцца і быць незалежнай ніводнай са сваіх " рэспублік" , хоць фікцыяй незалежнасьці карыстаюцца Беларусь і Украіна, прызнаныя ўсімі дзяржавамі ўваходзячымі ў склад Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. Наадварот. Масква павялічыла свае абшары ў Эўропе падпарадкаваючы Сатэліцкія краіны і захапіўшы частку па-нямецкай Прусі, Фінляндыі і Румыніі, а ў Азыі-абшары японскія.

"Дело неважное, бумажное"-Сталін.

Калі ў 1956 годзе Вугаршчына, а ў 1968 Чэхаславакія хацелі пазбыцца няпрошаных маскоўскіх апякуноў і скарыстаць з права "самастанаўленьня",-паўстаньні гэтых народаў былі крывава здушаны танкамі пераважна маскоўскіх войск і вызначаны новыя марыянэтковыя урады поўнасьцю адданыя і падпарадкаваныя Маскве. І апошняя агрэсыя і акупацыя ў сьнежні 1979 годзе незалежнай дзяржавы-Афганістану /19 мільёнаў насельніцтва, абшарам 647,497 кв.км., два з палавінай разы вялікшым ад Вялікай Брытаніі/. Гэта прыклады маскоўскага цынізму і пэрфідыі, для якіх законы і дагаворы ёсьць толькі бяздушнымі кавалачкамі паперы.

Савецкі мілітарызм быў разбудаваны дзякуючы помачы Захаду даўгатэрміновымі і нізка апрацэнтаванымі крэдытамі, дастаўкай тэхнічнага вынаходзтва, а часта будаваньнем цэлых фабрык цяжкой і машынабудаўнічай прамысловасьці. Да гэтага даходзілі мільёны тон сельска-гаспадарчых прадуктаў па ільготных цэнах,таксама на даўгатэрміновыя пазычкі, якія сёньня перавышаюць 16 мільярдаў даляраў. Гэта дало Маскве магчымасьць стварыць 5-ці мільённую армію і шматлікія формы зброі, праўда, не якасна, але колькасна перавышаючыя ЗША. Але зматарызаваная савецкая армія, танкі, самалёты, падводныя лодкі і іншыя ваенныя машыны патрабуюць непамерна вялікай колькасьці бэнзыны,а залежы сваей амаль вычэрпаны. Да гэтага, мусяць забясьпечыць бэнзынай бальшыню сатэліцкіх краін. І тут крыецца слабасьць натуры тэхнічнай. А яшчэ большая-натуры ідэалагічнай. Ідэя камунізму, прынамся на абшарах маскоўскай імпэрыі поўнасьцю збанкрутавала. Вялізарны каляніяльны гігант трымаецца толькі на штыках найлепш платных і ўсемагутных КГБ-істаў.

Так выглядае, што год 1981 будзе годам пераломным і прынясе вялікія змены. Адышоў нездэцыдаваны і слабога характару прэзыдэнт Картэр. Народы так званага 3-га Сьвету, пераважна

афрыканскія,хоць у значнай колькасьці пад моцным уплывам атракцыйнай на адлегласьць ідэалёгіі камуністычнай,пачынаюць расчароўвацца.Тысячы маскоўскіх "тэхнічных дарадчыкаў"/чытай "палітрукоў"/ і дзесяткі тысяч кубанскіх рэгулярных войск не прынясьлі так патрэбнай "братняй" матэрыяльнай помачы ў форме харчавых прадуктаў мільёнам галоднага насельніцтва нават "вызволеным" краінам.Масква пры сваей збанкрутаванай аграрнай калектыўнай сыстэме гэтай помачы даць не магла,бо сама трымаецца на імпорце з капіталістычнага Захаду.Войны яшчэ не закончаны ані ў Афрыцы, ані ў Азыі.Людзі уміраюць тысячамі штодзённа,пераважна з голаду,бо самымі ідэямі немагчыма запоўніць пустога страўніка.Агрэсыўная палітыка і акцыя Крэмля адчыніла вочы пераважнай бальшыні людзей.Пераломным выдарэньнем была агрэсыя і акупацыя Афганістану.Была яна прычынай,што на паседжаньні членаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў бальшынёй пяці шостых галасоў два разы была вынесена пастанова востра асуджаючая гэтую акупацыю з дамаганьнем неадкладнага выхаду савецкіх войск.

Далей,паводле інфармацыяў з розных крыніц,Савецкай каляніяльнай Імпэрыі загражае ўнутраная небясьпека ў сувязі з прысьпешаным ростам нацыяналізму ў ваўсіх не-расейскіх рэспубліках,трыманых у ланцугах.Мрояць яны аб вольнасьці і незалежнасьці,да чаго маюць поўныя правы,значна большыя,чымся некаторыя яшчэ паўдзікія народы Афрыкі,сёньня незалежныя.

Ідэяў немагчыма прынесьці на танках і сілай зашчапіць народу.Але ідэяў немагчыма і падавіць ці задушыць танкамі.Ідэягэта свабодная думка,сьведамасьць,свабодны сьветапагляд чалавека,гэта пуцяводная зорка,да якой ён імкнецца.Чалавека можна зьняволіць,але няма яшчэ такой сілы,каб змусіць яго думаць інакш і накінуць сваю ідэалёгію.Дзеля чаго ідэя вольнасьці і незалежнасьці,як прыродная і несьмяротная будзе пераможнай, таксама як калісьці жорстка прасьледваная Хрысьціянская рэлігія.

Ці не пачатак развалу Савецкай Імпэрыі? Польскі работнік у гданьскай сточні /суднаверфі/ ІМЯ ЛЕНІНА нанёс,прыпушчаць трэба,сьмяротны ўдар маскоўскаму акупанту,які стараўся рэалізаваць у Польшчы /і ў іншых Сатэліцкіх краінах/ "сьвятыя ідэі сьвятога Леніна".Польскі работнік,пасьля звыж 35 гадоў марксістоўска-ленінскай індактрынацыі,сарваў і патаптаў чырвоную плахту з сярпом і молатам,павесіўшы на гэтае месца нацыянальны польскі флаг з крастом і нацыянальным эмблемам.На месцы,дзе ў 1970 годзе падчас страйку былі замардаваны тры работнікі польскімі КГБ-істамі,збудавана тры 40 мэтровыя крыжы,палучаныя якарам,знакам надзеі.Сёньня вольны прафсаюз "Салідарнасьць"налічвае звыж 10 мільёнаў членаў.Жадаем посьпеху.






## ПРАБЛЕМЫ АУТАКЕФАЛІІ

Беларускі народ у сваім змаганьні за дзяржаўную незалежнасьць,адначасна імкнуўся да незалежнасьці сваей праваслаўнай Царквы.Дамаганьне гэта ёсьць доўгавяковае і зьвязана з гістарычнай доляй беларускага народу.Каб зразумець істоту самой царкоўнай незалежнасьці ў праваслаўнай царкве, трэба,хоцьбы коратка,перагледзіць гістарычныя падзеі зьвязаныя з гэтым пытаньнем.

Запачаткаваная ў Ерусаліме царква хутка пачала пашырацца па краінах тагачаснага сьвету.Спачатку Апосталы,а пасьля іхнія наступнікі-епіскапы,засноўвалі ўсюды,дзе былі веруючыя,мясцовыя цэрквы.Масавы і тэрытарыяльны разрост выклікаў патрэбу арганізацыйнай сыстэмы царкоўнага жыцьця. У гэтай дзейнасьці праявілася ўлада епіскапаў у вялікіх гарадах,каторым пачалі падлягаць цэрквы акалічных правінцыяў.

З часам,калі царква асвабадзілася ад прыгнечаньня,змаглі адбывацца так званыя Сусьветныя Саборы і былі акрэсьлемежы памесных цэркваў.Апрача гэтага,Сусьветныя Саборы займаліся бягучымі справамі,выдавалі неабходныя тлумачэньні веры /догмы/ і ўстанаўлялі царкоўнае права-каноны,каторыя рэгулявалі рэлігійнае і законнае жыцьцё царквы.Гэтыя абавязваючыя каноны першых 7-мі Сусьветных Сабораў пазастаюцца нязьменнымі ў Праваслаўнай Царкве да нашых дзён.

Ужо пасьля 4-га сабору маецца пяць патрыяршых юрысдыкцыяў:патрыярха папы Рымскага -у заходняй частцы Рымскай Імпэрыі,патрыярха Канстантынопальскага -на ўсходзе патрыярхаў Александрыйскага,Антыяхійскага і Ерусалімскага і аўтакефальнай Кіпрыйскай Царквы.

Юрысдыкцыйна-тэрытарыяльны падзел не нарушаў еднасьці царквы выражанай Ніцэйскім Сымболям Веры:"Веру ў адзіную сьвятую саборную і апостальскую Царкву...".Адзінства захоўвалася саборнай істотай аднолькавай веры хрысціян у ўсіх цэрквах сьвету.Падзел мае характар толькі адміністрацыйна-гаспадарчы ў шматнацыянальнай,рознамоўнай і распаўсюджанай царкве.

34-ты Апостальскі канон апавяшчае:"Епіскапам кожнага народу належыцца знаць першага між імі...".Гэты канон уводзіць сабою істотнае значэньне слова аўтакнфалія,што ў даслоўным перакладзе з грэцкага азначае "самаачольваньне", а пры шырэйшай аналізе-царкву,маючую свайго першаерарха,раўнапраўнага з другімі першаерархамі і незалежнага ад іх.Гэта і ёсьць дэфініцыяй аўтакефальнай царквы.

У спасылцы на гэты канон,9-ты канон антыяхійскага сабору паясьняе:"У кожнай правінцыі епіскапы павінны прызнаць епіскапа галоўнага гораду,дзе канцэнтруюцца ўсе бягучыя справы." Апошнюю частку канону паясьняе сам канон,з чаго бачыцца практычную этнічна-нацыянальна-дзяржаўную ар'ента-

цыю царквы ў адміністрацыйных падзелах.

Аналізуючы гістарычныя падзеі і практычныя рэзультаты, можна сьцьвердзіць,што аўтакефалію царква атрымлівае саборным прызнаньнем нават у тых выпадках,калі ўжо маладзейшыя аўтакефаліі выдзяляюцца із "лона мацеры" царквы.

Праваслаўны беларускі народ аўтакефаліі сваей царквы да гэтага часу не атрымаў.Гістарычную Літоўскую,Наваградзкую або Кіеўскую мітраполію за аўтакефальную царкву ніякім спосабам ня можна лічыць,бо тагачасныя мітрапаліты былі ў каннанічнай залежнасьці ад Канстантынопальскай патрыярхіі,якою пастаўляліся.Безумоўна,яна была народнай у меру абставін таго часу і жыла сваім унутраным свойскім парадкам.Такім чынам , праблемай таго часу была не аўтакефалія,а юрысдыкцыя.

Пасьля,па Люблінскай вуніі,праваслаўная царква перажывала найцяжэйшы перыяд сваей гісторыі,калі істотна змагалася за самое захаваньне сваей веры.

Фактычна,да 1922 году пытаньне атакефаліі фармальна царквой не было стаўлена.Упершыню захады да канкрэтнай аўтакефаліі былі распачаты на Менскім Саборы ў 1922 г.Але Беларуская Мінская мітраполія,у абставінах бязбожнага тэрору,ідэі гэтай не змагла зрэалізаваць.

Гэтае пытаньне сталася ізноў актуальным і прыняло рашучыя формы ў перыяд 1941-1944 гадоў.Укароткі час была праведзена велізарная работа на ўстанаўленьне разбуранай і ў настаўленьні яе на шлях аўтакефаліі.Менскі Сабор 1942 году зрабіў усю магчымую падгатоўку.Апрацаваў статут "Сьвятой Праваслаўнай Беларускай Аўтакефальнай Царквы" і выслаў пасланьні да Праваслаўных Усходніх патрыярхаў з просьбай аб увядзеньні яе ў лік аўтакефальных цэркваў.Параграф 113 статуту гаворыць:"Кананічнае абвешчаньне аўтакефаліі наступіць пасьля прызнаньня яе ўсімі аўтакефальнымі праваслаўнымі цэрквамі".Але ваенныя падзеі не пазволілі гэтай мэты асягнуць. Царква падзяліла лёс народу.

Факты таго часу ёсьць даволі сьвежыя,добра задакумэнтаваныя і сьведчаць,што нацыянальны ўздым ідзе побач з ідэяй аўтакефаліі і дзяржаўная незалежнасьць Беларусі,без ніякага сумніву,створыць атмасфэру,у якой аўтакефалія беларускай праваслаўнай царквы канчаткова зьдзейсьніцца.

Гісторыя апіраецца на фактах,таму гісторыкі і наогул пісьменьнікі,трактуючы праблему аўтакефаліі,павінны на іх базавацца,а не на тэндэнцыйных пунктах гледжаньня.Тут трэба ўсім зразумець,што беларуская царква існавала гітарычна і існуе сёньня,незалежна пад якімі юрысдыкцыямі і ў якіх абставінах,бо Царква-гэта Народ Божы.

Пытаньне аўтакефаліі для беларускага народу ёсьць жы-



вое і важнае.Праблема гэта ёсьць,у першую чаргу,самой царквы,гэта значыць праваслаўных беларусаў.Усякае ўмешваньне палітычных фактараў або іншаверуючых ёсьць недапушчальным. Гэта роўна датычыць своесобскіх умяшацельстваў як і суседніх цэркваў ці чужых дзяржаў. Мы-ж вядзём барацьбу за свабоду сваей дзяржавы і царквы.У сфэры рэлігійнай ,для веруючых праваслаўных,захаваньне царкоўных канонаў ёсьць вельмі важным і таму ўсякая царкоўная дзейнасьць павінна адбывацца кананічным шляхам.

У гэтым стагодзьдзі,а асабліва пасьля I-ай і 2-гой Сусьветнай вайны мноства праваслаўных беларусаў з розных краін знайшлася ў расеяньні па ўсім сьвеце.У адарваньні ад народу і свайго краю,пытаньне аўтакефаліі ёсьць праблематычным.Каб захаваць кананічнасьць,эміграцыйныя цэрквы нармальна захоўваюць сваю залежнасьць ад царквы свайго краю,або дзеля палітычных абставін,уваходзяць у юрысдыкцыю Сусьветнага Канстантынопальскага патрыярха.Гэтай апошняй дарогай пайшлі многія цэрквы на эміграцыі.

Сучаснае становішча царквы на Бацькаўшчыне ёсьць велмі цяжкое.Прасьледаваная бязбожнай уладай,знаходзіцца яна ў складзе расейскай царквы.Ня ведама дакладна,колькі там ёсьць цяпер адчыненых цэркваў,але апіраючыся на інфармацыях сабраных з усіх даступных крыніц,ёсьць іх каля 140-150,у той час, калі паводле подліку з 1914 году,на тэрыторыі Беларусі было 4,447 цэркваў,729 капліц,52 манастыры і 716 каталіцкіх касьцёлаў і капліц /у 1967 было толькі 67 актыўных прыходаў/, колькасьць сынагог няведамая.У той самы час перад I-ай вайной,для падрыхтоўкі кандыдатаў у сан сьвяшчэньніка,было ў Беларусі 3 праваслаўныя духоўныя сэмінарыі:уВільні,у Менску і ў Віцебску.Каля 80% насельніцтва складалася з праваслаўных.Сёньня няма ў Беларусі ніводнай духоўнай сэмінарыі. /У Літве,якая нто да колькасьці насельніцтва і абшару становіць каля аднэй трэцяй цяперашняй Беларусі,ёсьць духоўная каталіцкая сэмінарыя ў Коўне,а другая ў Рыдзэ-Латвія/.

Ніжэй падаюцца ўсе праваслаўныя аўтакефальныя цэрквы і іх узначольваньне.Першыя 4 ёсьць гістарычныя:

| | |
|---|---|
| Канстантынопальская | -Сусьветны Патрыярх, |
| Александрыйская | -Папа і Патрыярх, |
| Антыяхійская | -патрыярх,і |
| Ерусалімская | -патрыярх. |

Наступныя тры-гэта старажытныя аўтакефаліі:

| | |
|---|---|
| Кіпрыйская царква | -архіепіскап, |
| Сінайская царква | -архіепіскап і |
| Грузінская царква | -Каталікос Патрыярх. |

Нацыянальныя цэрквы:

| | |
|---|---|
| Грэцкая | -архіепіскап, |

| | |
|---|---|
| Баўгарская | -патрыярх, |
| Сэрбская | -патрыярх, |
| Расейская | -патрыярх і |
| Румынская | -патрыярх. |

Цэрквы краін,дзе праваслаўныя зьяўляюцца ў меншасьці:

| | |
|---|---|
| Пальская | -мітрапаліт, |
| Альбанская | -мітрапаліт, |
| Фінлядская | -архіепіскап,і |
| Чэхаславацкая | -мітрапаліт. |

Пара гадоў таму назад царква ў БССР атрымала становішча мітраполіі з тытулам:"Мітрапаліт Менскі і Беларускі". Першы,а таксама і цяперашні мітрапаліт-расейцы.

Мейма надзею,што ў хуткім часе да ліку гэтых аўтакефальных цэркваў дойдуць:наша Беларуская,Украінская і іншыя Праваслаўныя цэрквы жадаючыя сваей незалежнасьці.

Б.Біч.

АД РЭДАКЦЫІ.У артыкуле "Праблемы Аўтакефаліі" аўтар Б.Біч выказвае сваю асабістую апінію.

"ВРИ,ДА МЕРУ ЗНАЙ".

У "Голасе Радзімы" за 9 кастрычнік 1980 ёсьць артыкул у расейскай мове падпісаны І.Траяноўскім,маскоўскім прастаўніком у Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў,у якім апісвае ён,праўдзівае,паводле яго,палажэньне царквы ў СССР.У скарочаньні.За апошнія 5 гадоў збудавана звыж ста новых храмаў розных веравызнаньняў,пераважна праваслаўных.Сёньня ёсьць там 20 тысяч дзейных храмаў і 21 манастыр."Работают многочисленные семинарии,академии и пасторские курсы.Для учащихся построены новые корпуса и общежития".Ёсьць аднак недахоп духавенства. Свабода сумленьня і рэлігіі гварантуецца Канстытуцыяй.Прасьледаваньня няма.Заходняя прэса падае фалшывыя інфармацыі аб палажэньні царквы ў СССР.Савецкі Саюз ідзе з чыстым сумленьнем на Канфэрэнцыю ў Мадрыд.

Рэчаістасьць.Паводле журналу Маскоўскага Патрыярхату,на ўвесь СССР ёсьць толькі 3 духоўныя сэмінарыі:у Маскве,Ленінградзе і Адэсе і 2 акадэміі /Масква і Ленінград/.Ці гэтая колькасьць ёсьць "многочисленной"?Дарэчы,перад І-ай вайной толькі ў самой Беларусі былі 3 духоўныя сэмінарыі на 10 мільёнаў насельніцтва,а сёньня СССР налічвае 264 мільёны.

Канфэрэнцыя ў Мадрыдзе,якая мае закончыцца пад канец сьнежня 1980 году,ёсьць прадаўжэньнем і праверкай выкананьня Гэлсінскага Дагавору з 1975 году.Удзел бяруць прадстаўнікі тых самых 33 Эўрапэйскіх краін,ЗША і Канады.Гэтым разам Масква знайшлася на лаве падсудных.Аб гэтым будзе асабна. КОГ.



570-Я ГАДАВІНА ГРУНВАЛЬДСКАЙ БІТВЫ.

/ПАЯСЬНЕНЬНЕ. Гістарычна Беларусь была ведамай пад назвай Літвы або Вялікага княства Літоўскага і была пераіменавана расейскім царскім урадам у палове 19-га стагодзьдзя на Беларусь. Сучасная Літва або Летувія называлася: Жамойць /Жмудзь/,Самогіцыя або Аўкштота./

Вайна паміж Тэўтонскім нямецкім ордэнам з аднаго боку а аб'яднанымі сіламі каралеўства Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, з другога боку, распачалася ў 1409 г. на тле частых наездаў на паўночную Польшчу і захопу земляў Жамойці.Закончылася перамір'ем да наступнага году. Шыкаваліся да вайны, бо перагаворы аб заключэньні міру не далі пазытыўнага рэзультату.

На нарадзе ў Берасьці ў сьнежні 1409 г. вялікі князь Літвы Вітаўт і польскі кароль Уладыслаў 2-гі Ягайла распрацавалі плян кампаніі. Змаглі яны змабілізаваць саюзную польска-літоўскую армію з каля 29 тысяч лёгкай коньніцы і каля 10 тысяч пяхоты падзеленых на 90 харугваў: 50 польскіх і 40 літоўскіх /беларускіх/, пры чым у склад гэтай арміі ўваходзілі аддзелы іншых нацыянальнасьцяў, як Украінцаў, Чэхаў, Малдаваў, Татараў і іншых.

Армія Крыжакоў была меншай, складалася з 21 тыс. цяжкой панцырнай коньніцы і 6 тысяч пяхоты, добра ўзброенай, пераважна Немцаў, хоць былі і аддзелы наемнага выпрабаванага ў баях войска.

Сустрэча, а пасьля бітва з выбраным крыжацкім войскам адбылася 15 ліпеня 1410 г. каля мястэчка Грунвальд у сучаснай паўночнай Польшчы /даўней Прусіі/. Абедзьве арміі мелі па некалькі цяжкіх гармат і бітва распачалася ад гарматнай дуэліпершы раз у гісторыі воен/ агнястрэльная ручная зброя яшчэ не была тады знанай/. Польскае войска пад камандаваньнем караля Ягайлы заняло левае крыло, цэнтр-тры смаленскіх харугвы /Смаленшчына была часткай В. К. Літоўскага/, а левае крыло і цэнтр літоўскае войска пад камандаваньнем князя Вітаўта. Атаку распачалі харугвы лёгкай літоўскай коньніцы, пры чым князь Вітаўт прымяніў "татарскую тактыку". Даў загад, каб пры першым спатканьні коньніца павярнула назад і ўдавала ўцечку.Цяжкая крыжацкая коньніца / іх коні таксама былі часткова пакрыты панцырамі/ кінуліся ў пагоню праз нейкіх тры кіламэтры ад поля бітвы. Іншыя крыжацкія харугвы, маючы адслоненае крыло, ударылі на смаленскія харугвы з намерам разьбіўшы іх, акружыць польскае войска, якое было заангажавана ў франтавым атаку. Хоць з велізарнымі стратамі /адна харугва была амаль поўнасьцю знішчана/ смаленскія харугвы геройчна ўстрымалі націск ворага.

Калі князь Вітаўт пабачыў, што крыжацкая коньніца была змучана пагоняй і малаздольнай да бою, ўстрымаўшы сваю, акружыў і разьбіў усе адлучаныя крыжацкія харугвы. Палучыўшыся пасьля ізноў з польскім войскам, супольна разграмілі Крыжакоў. Армія ордэна фактычна перастала існаваць. З 27-і тысячнай

армії засталося толькі каля паўтары тысячы. Былі забіты вялікі магістр Ульрых Фон Юнгінген, які ўзначальваў крыжацкія войска і шмат знатных рыцараў.

Вынікі перамогі ў Грунвальдскай бітве замацаваў Тарунскі мір I4II г. і спыніў далейшую агрэсыю Тэўтонскага ордэна на ўсход. Князь Вітаўт прылучыў да Вялікага княства Літоўскага Жмудзь / Жамойць/, а па нейкім часе, на падставе дагавору з каралём Ягайлам, Сувалкі і цэлую правінцыю. Забясьпечыўшы заходнія граніцы, Вітаўт скіраваў свае сілы на поўдзень і ў I4I5 годзе заняў частку Чорнага мора і замацаваўшы там паўднёвую граніцу, гэтым самым стварыў найвялікшую дзяржаву Усходняе Эўропы. Пад канец свайго жыцьця Вітаўт меў намерператварыць Вялікае княства Літоўскае ў каралеўства. Каранацыя мела адбыцца ў I429 г. , але да гэтага не дапусьцілі Палякі. Памёр Вітаўт у I430 годзе ў падазраных абставінах.

Мікола Залога.

НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ

Няма ў нас гор, няма ў нас мора,
Ды мы й не знали, дзе яно,
Бо я з тае зямлі, дзе гора,
Глядзела ў кожнае акно.

Яшчэ й цяпер літаньні чую
I стогн расхрыстаных вятроў,
Бо я з тае зямлі, якую
Вайна таўкла ў мільён цапоў.

Мы звыклі бачыць босых, голых,
Было, на жаль, пакутных шмат.
I я з тае зямлі, дзе колас
Ледзь суцяшаў нас да каляд.

Але нішто нас не скасіла,
Мы ўсе мужнелі як мага,
Бо я з тае зямлі, дзе сіла
Расла, не знаўшы пірага.

I скутных ў нас вы не шукайце-
Душа, што жаўранак, пяе,
Бо я з тае зямлі, вы гляньце,
Я сам падобны на яе:

Наш крок упэўнены, не вузкі,
Бо сонца ў нас перамагло,
I я з тае зямлі, дзе спуску
Праз век за крыўды не было.

Пятрусь Броўка.







Працяг з папярэдняга номера.

Памятаю, сярод цыганоў быў адзін які сьпяваў "Лазара"-гэта асаблівая песьня, даволі паэтычная і зьмястоўная і пачыналася славамі-" Быў у Хрыста Лазар".

Жабракоў было вельмі многа, ўсюды пры цэрквах і нават у мястэчку. Людзі называлі іх " убогімі". Многія прыяжджалі з далёка, а асабліва цыганы, якія раз'яжджаліся па " Фэстах" і таму чувалася " Сыды коло хаты ато украдуць цыганы"- звыклая застрашка непаслухмяных дзяцей, у палескім нарэччы.

Тут-жа каля манастыра, на папярэдні дзень Сьвята, з самага ранку, размяшчаліся вялікія " буды",-крытыя вазы, з прадажай іконак, крыжыкаў, малітвенікаў, сьвечак, лампадак,воску, ладана, Фіцількоў і т. п. Іконкі былі: Спаса, Жыровіцкай Божай Маці-зьяўленьне на дзераве, Пачаеўскай, Пакровы, Сьв. Міколы Цудатворца, Уздаравіцеля Панцелеймона, Пераможца Юрыя, а так-жа Дванаццаці Сьвятаў і другія: былі і вобразы - Страшнага Суду і збаўленьня Пачаева, зьяўленьнем Богамаці, ад агаранскага нашэсьця у I675 г. , на якія людзі, углядаліся, ўнікаючы ў сутнасьць.

Прадаваліся таксама: люстэркі, грабяні, ножыкі -"цыганчыкі" , пацёркі, пярсьцёнкі, стужкі, ніткі, іголкі, галаўныя хусткі, і асобна- булкі, для дзяцей " птушкі" із цеста,бублікі, абаранкі, хлеб, кілбаса, сала, нават мыла і каламазь, а так-жа: кадушкі да квашаньня капусты і саленьня агуркоў, бярозавыя венікі... Ішла прадажа вырабляных бараніх скураў і шытых кажухоў. А далей - шматлікія вазы са смачнымі сьлівкамі "венгеркамі" і ружовымі- " рэнклодамі", грушаў, яблыкаў, а так-жа сушоных грыбоў і вянкоў цыбулі. Усяго гэтага было мноства і асаблівым прысмакам былі " пахучыя" грыбы-баравікі, якія былі закупленыя - вянкамі-да Піліпаўкі і Вялікага посту.

Вечарэе. Надыходзіць час Вячэры. Мы ужо- у Вучылішчы, шыкуемся, чысьцімся. Але некатарыя-усё яшчэ каля царквы, чакаюць удару манастырскага звону. Нам ведама, што акурат а 5-ай гадзіне, 30 мінут будзе "біць" самы вялікі манастырскі звон і гэта будзе рабіць стары-прастарэлы званар, якіўжо на супакоі. Ён і жыў пад званіцай, якая стаяла асобна ад храма, па другой старане вуліцы. Гэты званар сам ужо ня мог званіць, але усяроўна-трымаў вяроўку у руках, за якую пацягвалі двох здаровых малайцоў-ягоных памочнікаў. Усе глядзелі на гэта і мы з вучылішчных вокнаў, як на версе,адчыненай званіцы зьявіліся тры чалавекі - старык зьнімаў шапку, хрысьціўся,гэтаж рабілі другія. Разкачвалі біла і...разыходзіўся глухі першы бой вялікага звана. Гэта было - сапраўднае ушанаваньне і малітва старога званара! Хрысьціліся і мы ў будынку вучылішча. Усе, у ўсім мястэчку абнажалі галовы. Чуліся галасьней - другі, трэці бой і т. д . Шырока і далёка ліліся водгукі старыннага манастырскага звана. Людзі рушылі у храм, але ўвайсьці ня многім удаецца - ён ужо быў запоўнены ад самага ранку.

А 6-ай вечара, пасьля вялікага трызвоннага, пачынаецца слаўная Вячэрня, якая адпраўлялася ў самым храме і у цёплай

пры ёй-школьнай царкве, ў дзвух цэрквах манастырскага саду і на могілках - Сьв. Юрыя. У вялікай колькасьці прыбыўшае на Сьвята сельскае духавенства, ў поўным сваім складзе, брала ў дзел у Богаслужэньнях па ўсіх цэрквах. У храме Вячэрня служылася доўга. На хорах сьпяваў наш школьны хор з нашым рэгэнтам, з нашым"устаўшчыкам" -вучаніку, чытацелях і прыслужніках -так жа вучанікох. Прыгожы быў сьпеўі разборчывае чытаньне. Маладыя сільныя галасы нашых пеўчых звонка раздаваліся з высаты хораў і стварала асабліvы настрой. Наша вучнёўскае " От юносьці моея " і "Слава в вышнім Богу"-здаецца, чую да сёньняшняга дня.

Духоўнае Вучылішча і манастыр былі цесна зьвязаны між сабою царкоўнымі службамі і гэтым ствараліся адно духовае цела-Храміна Духа Божага. У храмовае сьвята Пакрова мы ўкладалі усю душу, Божую Маці пряняць і нас юнакоў, пад Свой пакроў. Усю Вячэрню мы набожна выстоівалі у сьціснутых радох і па заканчэньні яе, пасьля на каленях прасьпяваўшы " Под Твою мілосьць", борзда, радасна і асьветлянымі духовай вясёласьцю тварамі,адыходзілі двурадным ланцугом да сябе - да Вучылішча па манастырскім калідоры сярод стаячых, сядзячых і нават ляжачых, там богамольцаў, разкладаўшыся ўжо на начлег. Пасьля хуткай вячэры ў сталовай, адразу ішлі спаць, каб раненька ўстаць і яшчэ да Літургії пахадзіць па цэрквах і сярод богамольцаў.

Вось і самое Сьвята. Цудоўнае надвор'е-ціхае і сонечнае. Я за ўвесь час свайго быту у Вучылішчы не памятаю такога не спадзяваньня ў гэты дзень. Казалі у Жыровіцах, што Сама Царыца Нябесная дае веруючым добрую пагоду, каб змаглі падыйсьці пад Яе амафор. Гэтак яно і было. Нашы юныя душы былі пачуцьцёвыя і успрымальныя і мы ўжо з рана былі з богамольцамі.

А 6-ай гадзіне з рана па ўсіх цэрквах, за выняткам храма, адпраўляюцца Літургіі. Прычашчаюцца на 2-3 чашы.

А 8-ай гадзіне пачынаюцца сустрэчы Хрэсных Ходаў. Гэта ўжо сапраўды надзвычайнае відовішча. Прысутныя людзі выходзяць на бакі вуліцы, ўлазяць на платы і стрэхі, а маладыя -на дрэвы. Падросткі узьбіраюцца на самыя вяршыны і адтуль паведамляюць аб зблiжэньні ходу.

Надзвычайны парадак - цішыня. Мужчыны паздымалі шапкі. На чыстую вуліцу, жанчыны і дзяўчаты кідаюць кветкі.

Няма нікога каб даглядаў за парадкам-людзі самы яго захоўваюць. Ніхто нікога не папіхае, не сварыцца, наадварот - кождаму стараюцца даць месца.

Пры манастыры ўставілася духавенства, на перадзе з а. Архімадрытам, з саборным хорам і харугвямі.

Зблiжаецца першы хрэсны ход. Як відаць, прыйшоў ён із далёка. У перадзе нясуць крыж, іконы і харугвіі, пасьля - пеўчыя і маленькі стары бацюшка і народ, народ. І якіх людзей там толькі няма: мужчыны і жанчыны, моладзь, дзеці, хто ў ботах, а то і босыя. Хор сьпявае а ўсе за ім ідучыя-памагаюць.

Падышоўшы пад манастыр, крыж, харугві і людзі пакланяюцца да зямлі а манастырскія адказваюць гэтак-жа. Стары



бацюшка цалуе крыж у руках а. Архімандрыта і цалуюцца разам, і хрэсны ход далучаецца, каб сустракаць наступны. А наступны - вось ужо недалёка, ў такім-жа парадку. Шмат было такіх хрэсных ходаў. Некаторыя начавалі па дарозе, каб адпачыўшы,զраньня і выканаць свой чын. Усе людзі праяўляюць высокі духовы уздымнабожнасьць і радасьць. Шматлікія абціраюць сьлёзы, шэпчуць малітвы, або сьпяваюць разам з хорам.

Часамі можна пачуць пытаньні: " адкуль гэтыя? " а скуль тыя ? . Вось чую, нехта шэпча мне:"Бачыш Данілу, гэта і нашыя прышлі". Угледзеў Максіма і не далёка ад яго - Данілу - нашых богамольцаў. Угледзелі і яны нас, ківаюць галовамі і паказваюць на вялікую групу нашых прыхажанаў.

А 9-ай 30 пачынае біць галоўны манастырскі звон. Усе хрысьцяцца. Павольны гук магутнага звана чуваць праз паўгадзіны, а пасьля пачынаецца агульны трызвон усіх манастырскіх званіцаў, як-бы гаворачых маміж сабою аб вялікім Сьвеце і радасьці усіх веруючых.

У гэты час, мы праз Вучылішча, ўваходзім у храм і цеснымі радамі займаем свае месцы на перадзе. З намі разам - увесь вучыцельскі пэрсанал з загадчыкам вучылішча Пятром Фёдаравічам Палянскім, каторы пазьней быў Мітрапалітам Круціцкім - заступнікам Патрыярха Ціхана.

Пачынаецца Бажэственная Літургія. Дзіўнае анёльскае сьпяваньне нашага школьнага хору, выразнае чытаньне Апостала і Евангельля, ўзнёслая "Херувімская " з Вялікім Выхадам шматлікага сьвятарства, гучнае "Верую" і "Отчэ наш", пропаведзь і прычасьце Сьв. Тайнаў некалькімі чашамі.

Пасьля Літургіі - малебень Прасьвятой Багародзіцы,на які выходзіла ўсё духавенства і у канцы - "Многалецце",якое выгалашаў настаяцель царквы мястэчка Ізабэліна,мой дваюрадны брат а. Еўстафі М. сваім магутным- грамавым голасам, ускалыхваючы храм. Ён быў выдатным прамоўцам і таму казаў пропаведзь,дзеля чаго яго на Сьвята асабліва чакалі. Быў удаўцом, а манахі яго вельмі любілі і паважалі.

Цалаваньне крыжа адбываецца праз доўгі час і гэта яго даюць у некалькіх мясцох. Каля 3-ай гадзіны храм пачынае параж - нець. Але шмат яшчэ богамольцаў, на каленях аддаюць свае апошнія малітвы, прыкладаюцца да Цудатворнае Іконы і мала-памалу выходзяць з храму. Пачынаюць разыходзіцца ва ўсе бакі па нашых шырокіх і вузкіх сельскіх дарогах і сьцежках. Пры разьвітаньнях - можна пачуць: " да вясны", гэта значыць да Сьвята Зьяўленьня Іконы Божае Маці-7-га Траўня, 20-га па новаму стылю, "да Сёмухі", "да наступнага Пакрова", "прыходзьце","прыдзем, калі Бог дасьць" і т.д.

Частка богамолаў застаецца на Вячэрню і Акафіст ды на наступны дзень.

Успамінаючы ўсё гэта, ад душы хочацца сказаць - слава і хвала таму часу- нашай глыбокай веры.

Мы - вучні адыходзім у сталоўку на спозьнены абед.Ад Сьвята у ўсіх - шмат уражаньняў і гутаркі. Кождаму хочацца нешта

расказаць іншым. Нешта і есьці няма ахвоты. Ямо хутка, каб яшчэ раз паглядзець на богамольцаў. Заходзяць развітацца Максім і Даніла. Мы іх частуем нашым абедам – вялікай талеркай грачанай кашы. Я перадаў праз іх ліст да дому. Разьвітваемся і праводзім іх па вуліцы.

Да вечара мы вольныя. Некаторыя блізкія і знаёмыя затрымаліся ў Зімінскай, Ярмаловічаў, Гамаліцкіх і на сталым заезьдзе жыдоўскі- Мазі, запрашаюць сваіх да сябе на вячэру. Хто вольны- гадзінку ці дзьве, назірае як разыходзіцца і разьяжджаецца народ і пасьля ўжо, са смуткам, вяртаецца да Вучылішча. Доўгі, доўгі час трываюць уражаньні. Моцна ў душы трымаецца перажытае Сьвята. Маладая душа імкнецца да духовых уздымаў, але супакой нам дае Божая Маці Сваім Цудатворным Абліччам. Хутка ўжо будуць Коляды...

А.П. Міхалоўскі.

Як шмат мы ў жыцьці губляем,
і кожны час усё цяжэй,
На склон гадоў перажываем,
душою змучанай сваёй.

У згубах ёсьць і выбаўленьне,
сваёй веры доказ мы даём
Гасподзь нябачаным натхненьнем,
дае надзею быць у Царстве Сваём.

Н. Г.

Цвяток радзімы васілька.
М. Багдановіч

Ты, Гомо космікус, мой брат,
Глядзі каб не забыў
Знаёмых сьцежак і прысад,
Сваіх жытнёвых ніў,

Гаючых рос, духмяных траў,
Далін, вятроў, азёр
І рук, з якіх ты стартаваў
Да невядомых зор,

І песень матчыных сьвятых,
І смаку праснакоў,-
Чаго нідзе не знойдзеш ты,
Пайсьці ў заклад гатоў.

А каб заўжды мог адшукаць
У космасе край свой,
Цвяток радзімы васілька
Вазьмі ў палёт з сабой.

Максім Танк.



БЕЛАРУСЫ НА МІЖНАРОДНЫМ ФОРУМЕ

БЕЛАРУСКІ ПРАДСТАЎНІК НА ЭЎРАПЭЙСКІМ СПАТКАНЬНІ У ОТТОБОЎЭР, ЗАХ. НЯМЕЧЧЫНА.

З нагоды 1500-годзя ад дня нараджэньня сьв. Бэнэдыкта, ад дня 13.6.-15.6.1980 г. ў Оттобоўэр, Заходняй Нямеччыне, дзе знаходзіцца прыгожы Бэнэдыктынскі манастыр, адбылося трохдзённае сьвяткаваньньне у гонар заснавальніка Бэнэдыктынскага манашаскага вордэна.

Першы Бэнэдыктынскі манастыр быў заложаны ў 529 годзе на Монтэ Касыно ў Італіі.

Сьвяткаваньне было палучанае з Эўрапэйскім Спатканьнем ведамых культурных, палітычных і рэлігійных прадстаўнікоў з эўрапэйскіх і заморскіх краінаў сьвету. Гасп. Д. Касмовіч, як госьць, прымаў удзел у гэтым сьвяткаваньні і спатканьні.

Для нас беларусаў успамін аб Монтэ Касыно ёсьць вельмі балючым. Тут, пад мурамі Монтэ Касыно, ў славутай бітве, падчас 2-ой Сусьветнай вайны, геройскі загінулі шматлікія беларускія жаўнеры, якія змагаліся ў радох польскай арміі генерала Андэрса. Славу і храбрасьць гэтых герояў пераняпі сабе палякі і ею цяпер ганарацца. Мы беларусы павінны заўсёды і ўсюды насьвятляць гістарычную праўду і шанаваць памяць нашых палеглых на Монтэ Касыно герояў.
На сьветкаваньне ў Оттобоўэр прыбыў з Польшчы кракаўскі кардынал Францішак Махарскі, які пры ўдзеле хора /дзіцячага і мужчынскага/ Пазнанскай Фільгармоніі і польскага арганіста ад - служыў у нядзелю 15.6.80, у Базыліцэ ўрачыстую Службу Божую.

Гасп. Д. Касмовіч, падчас трохдзённага пабыту на сьвяткаваньні, падчас афіцыйных прыняцьцяў і прывітальных для запрошаных гасьцей у каралеўскай зале Оттобоўэр, у манастыры, меў нагоду за - мяніцца думкамі з усімі запрошанымі гасьцямі ў тым ліку і з кракаўскім кардыналам. Гасп. Касмовіч прасіў кардынала дапа - магчы беларускім каталіцкім вернікам, якіх цяпер ёсьць шмат у заходняй часцы цяперашняй Польшчы, на ладжываць рэлігійныя службы на роднай беларускай мове.

Ён выкарыстоўваў кожную нагоду насьвятліць прамінэнтным гасьцям гістарычную праўду аб слаўных беларускіх жаўнерах, якія прынясьлі ў ахвяру для ўсяго сьвета, сваё жыцьцё, на Монтэ Касыно. Сьвяткаваньне было ўпрыгожана багатай мастацкай праграмай. На ўрачыстасьцях прысутнічала духавенства ўсіх хрысьціянскіх веравызнаньняў у тым ліку Архіепіскап Філафей, які, як беларус насьветляў прысутным гасьцям царкоўнае і рэлігійнае жыцьцё на Беларусі і ў сваёй прамове прасіў дапамагчы беларускаму і іншым народам паняволяным бязбожнай Масквою народам у змаганьні за свае рэлігійныя і чалавечыя правы.

## БЕЛАРУСКІ ПРАДСТАЎНІК У АЎГСБУРГУ НА ЮБІЛЕЙНЫМ СЬВЯТКАВАНЬНІ 450-ГОДЗЯ КОНФЭССІО АЎГУСТАНА

У днях 22-29 чэрвеня 1980 г. у Аўгсбургу /Зах Нямеччына/ лютэране ўсяго сьвета сьвяткавалі 450-годзе "Конфэссіо Аўгустана" /Уручэньне у 1530 годзе, 25-га чэрвеня, кайзэру Карлу у - Аўгсбурскага Прызнаньня Лютэранскага Веравызнаньня/, якое дала эвангеліцка-лютэранскаму веравызнаньню касьцельную форму.

25.6.1980 г. у прысутнасьці запрошаных гасьцей з ўсяго сьвету, адбыўся урачысты акт Сьвяткаваньня. Удзел у Сьвяткаваньні прымаў Гасп. Д. Касмовіч.

Дня 26.6.80 г. бургомістр горада зрабіў прыняцьцё прыбылым гасьцям,пры гэтай нагодзе былі ўручаныя гасьцям Юбілейныя Мэдалі.

У пятніцу, 27.6.80 г. у Кангрэсовай Залі горада адбыўся "подыюм дыспут"на тэму" Вера і Палітыка", у якім прынялі ўдзел сьвятары і дзяржаўныя нямецкія прадстаўнікі, ў тым ліку нямецкі міністар абароны. У апошнім дню сьвяткаваньня, у нядзелю 29. 6.1980 г. у-ваўсіх сьвятынях хрысьціянскіх адслужана была Божая Служба. У касьцёле сьв. Анны з прамовай да вернікаў выступалі Старшыня Эвангеліцкага Касьцёла ў Нямеччыне і Каталіцкі Кардынал з Мюнхену. Пасьля Божай Службы, на пляцу, ў цэнтры горада, адбыўся заключны мітынг падчас якога,нягледзячы на праліўны дождж, у прысутнасьці шматтысячаў людзей, з прамовай выступалі Прэзыдэнт Нямецкай Фэдэральнай Рэспублікі і прадстаўнікі духавенства з ўсіх кантынэнтаў.

Пасьля мітынга, ў залі Музея Міністар Прэзыдэнт Бавары зрабіў прынямце для запрошаных гасьцей з удзелам Прэзыдэнта Нямеччыны і Прадстаўнікоў Нямецкага ураду. Падчас двух гадзіннага прыняцьця Гасп. Д. Касмовіч меў нагоду правесьці гутарку з прысутнымі на прыняцьці гасьцямі.

У ліку прысутнага на сьвяткаваньні духавенства быў Архіепіскап Філафей, які ў сваім прывітальным выступленьні і у прыватнай гутарцы з гасьцямі насьвятляў цяжкі лёс беларускага і іншых народаў пад бязбожным камуністычным рэжымам і змаганьні народаў СССР за рэлігійныя і чалавечыя правы.

## БЕЛАРУСКІЯ ПРАДСТАЎНІКІ НА КАНГРЭСЕ ПРАЦОЎНАГА КАМІТЭТА ЗАМЕЖНАЙ ПАЛІТЫКІ ЦСУ /нямецкай ХРЫСЬЦІЯНСКА-САЦЫЯЛЬНАЙ ВУНІІ/.

Аддня 18.7.-19.7.1980 у Форхгэйме, Зах. Нямеччыне, адбыўся Працоўны Кангрэс Замежнага Сэктара ЦСУ,на які былі запрошаны беларускія Прадстаўнікі Гасп. і Гас-ня Д. і Н. Касмовічы. Кангрэс адчыніў Старшыня Камітэту Замежнай Палітыкі граф Штаўфэнбэрг, Сябра Нямецкага Парламэнту. У двудзённых дэбатах, пры ўдзеле ўдзеле знаных нямецкіх і эўрапэйскіх і амэрыканскіх палітычных і вайсковых экспэртаў прадыскутаваны былі пытаньні: 1/ Эўрапэйская бясьпека пасьля акупацыі Масквою Афганістану і 2/ Нямеччына і яе Саюзьнікі. Былі прыняты адпаведныя заключэньні.



Гасп. Д. Касмовіч у сваім экспазэ падкрэсьліў, што беларускі і ўсе паневоленые Масквою народы зьяўляюцца поўнымі саюзьнікамі вольнага Захада. Масква выкарыстоўвае патэнцыянальныя сілы паневоленых ёю народаў для сваіх імпэрыялістычных мэтаў. Пры палітычных і мілітарных меркаваньнях Фэдэральная Нямецкая Рэспубліка і Заходнія Урады павінны мець на ўвазе гэтыя саюзныя, патэнцыяльныя сілы паневоленых Масквою народаў. Праз еднасьць заходніх народаў і праз падтрымку паневоленых народаў Эўропа і вольны сьвет пазбавіцца ад таталітарнай імпэралістычнай маскоўскай пагрозы.

Гэтымі славамі закончыў Гасп. Д. К. сваё Экспозэ.

## БЕЛАРУСКІ ПРАДСТАЎНІК НА ПАСЕДЖАНЬНІ СЯБРОЎ ЭРС І ЦК АБН.

Дня 12.6.80 г. у Мюнхену / Зах. Нямеччына/ адбылася паседжаньне ЦК АБН і Сяброў ЭРС. Быў зроблены прагляд праробленай працы. Усебакова была разгледжана сытуацыя у паневоленых краінах і сусьветная палітычная сытуацыя у сувязі з брутальным маскоўскім нападам і акупацыяй Афганістану. Затым разглядалася чарговая XIII-я ВАКЛ Канфэрэнцыя а таксама быў прыняты план працы на бліжэйшы час.

Гасп. Касмовіч паінфармаваў прысутных аб адбытым Кангрэсе Панэўрапэйскай Вуніі у Пассаў. / апісаны падрабязна ў № 279 "Беларуса" ст.4./.

ЭРС-"ЭРАПЭЙСКАЯ РАДА СВАБОДЫ"

БЕЛАРУСКІ ВЫЗВОЛЬНЫ ФРОНТ
ГАЛОЎНЫ ШТАБ.

## КОШТЫ ВЫБАРАЎ ПРЭЗЫДЭНТА ЗША - 103 МІЛЬЁНЫ ФУНТАЎ

Паводле "Дэйлі Тэлеграф" выдаткі зьвязаныя з выбарам Прэзыдэнта ЗША ў гэтым годзе выносілі 250 мільёнаў даляраў, або ў пералічэньні на ангельскую валюту- 103 мільёны фунтаў. Кожны з кандыдатаў /Картэр і Рэган/ атрымаў 29 мільёнаў даляраў,здзяржаўных фондаў, а Андэрсон толькі 3 мільёны даляраў, бо на яго галасавала толькі 5% насельніцтва. Дзве галоўныя партыі:Дэмакратаў і Рэспубліканаў атрымалі па 4,4 мільёнаў доляраў. Рэшта выдаткаў была пакрыта пераважна з собскіх сродкаў.

Як ведама, пераважнай бальшынёй быў выбраны Прэзыдэнтам Рональд Рэган.
Лёндански Аддзел Беларускага Вызвольнага Фронту выслаў нова-выбранаму Прэзыдэнту кангруталяцыйны ліст.

## 35-ЫЯ УГОДКІ

Амэрыканцы кінулі атамную бомбу на Хірасіму 6.8.1945 г.
Утварэньне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый 24.10.1945 г.

## АХВЯРЫ АШУКАНСТВА.

На Маскоўскую Алімпіяду выехала каля 2.500 Ангельцаў,але 54 асобы, якія заплацілі па 800 анг. фунтаў на рахунак падарожжа, коштаў пабыту ў Маскве, на гульнях і за візы,-перад самым выездам без паданьня матываў атрымалі адмоўныя адказы,-другімі словы, не далі візы. Мала гэтага, Масква катэгарычна адмовілася зьвярнуць пацярпеўшым людзям заплачаныя імі грошы. Замест даходу, значныя страты панясла і Ангельскае агенства /"Спортс Травэль"/, якая ўладжвала фармальнасьці з візамі і выездамі ў Маскву турыстаў і наведвальнікаў Алімпіяды. Гэтыя факты павінны быць навукай і перасьцярогай для іншых турыстаў, якія маюць намер наведаць СССР.

## БЕЛАРУСЫ-УДЗЕЛЬНІКІ КАНФЭРЭНЦЫІ СУСЬВЕТНАЙ АНТЫКАМУНІСТЫЧНАЙ ЛІГІ. /Скарочаная справаздача/.

Ад 24 да 28 ліпеня 1980 году адбывалася ў Жэнэве /Швайцарыя/ 13-я Канфэрэнцыя Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі / ВАКЛ/. У Канфэрэнцыі прымалі удзел 250 дэлегатаў ад 101 арганізацыйных адзінак, сяброў ВАКЛ, якія рэпрэзэнтавалі 89 краінаў усяго сьвету. Беларускі Вызвольны Фронт ёсьць паўнапраўным членам ВАКЛ-у, прадстаўнікамі ад яго былі на Канфэнцыі гасп. Д. Касмовіч і гасп-ня Н. Касмовіч.

Прыбылыя на Канфэрэнцыю дэлегаты былі спатыканыя на жэнэўскім аэрадроме. Пасьля праверкі ўпанаважаньняў і палагоджаньня фармальнасьцяў былі яны закватэраваныя ў адным з найлепшых жэнэўскіх гатэлі- "Пэнта". Нарады адбываліся ў будынку Міжнародных Канфэрэнцыяў пад моцнай аховай швайцарскай паліцыі і войска.

Канфэрэнцыя была адчынена вельмі ўрачыста. Швайцарскія жаўнеры пад музыку швайцарскага і жэнэўскага гімнаў, па вайсковаму,парадным крокам унесьлі на залю Канфэрэнцыі дзяржаўныя Сьцягі: швайцарскі і жэнэўскі і з гонарам паставілі іх перад Прэзыдэнтам Канфэрэнцыі. На сьцяне былі Сьцягі іншых нацыянальнасьцяў уключна з вялікім бел-чырвона-белым Беларускім. Беларуская дэлегацыя мела месца пры першым стале перад Прэзыдэнтам. На стале быў малы беларускі сьцяжок і таблічка з напісам на француская мове "Беларусь".

Канфэрэнцыю адчыніў папярэдні Прэзыдэнт ВАКЛ-у Др. Фрутос, зазначыў, штоня гледзячы на лічбовую перавагу Савецкай арміі, Захад ёсьць багацейшы ідэямі і мае за сабой агромную патэнцыяльную сілу паняволеных камуністамі народаў. Гэтая сіла зьяўляецца ахілесовай пятой камуністычнага рэжыму. Пасьля перадаў прэзыдэнства гасп. Шыффэрлі, Старшыні Швайцарскага Сэктара ВАКЛ.

У сваім прывітаньні дэлегатаў і гасьцей гасп. Шыффэрлі падкрэсьліў, што маскоўская імпэрыя ёсьць апошняй каляніяльнай імпэрыяй XX стагодзьдзя, якая прыгнятае і гвалціць падставовыя правы чалавека і нацыяў на вольнасьць. Барацьба з камунізмам-гэта барацьба за вольнасьць. Далей былі адчытаны





шматлікія прывітаньні ў гэтым ад беларускіх арганізацыяў.

Праца Канфэрэнцыі праходзіла на пленарных паседжаньях у 5 Камісіях прысьвечаных наступным тэмам: " Марксізм і Рэлігія", "Савецкая мілітарная пагроза Эўропе", " Правы і нацыянальная незалежнасьць","Праблемы Азыі-Афганістан-Далёкі Усход" і"Апрацаваньне супольнага Камунікату".

Беларуская Дэлегацыя працавала ў 2-ой і 3-яй Камісіях.У Камісіі 3-яй палітычнай беларускі дэлегат Д. Касмовіч запрапанаваў парадак разгляду і прыняцьця рэзалюцыяў. У сваім дакладзе апісаў ён гісторыю змаганьня беларускага народу за сваю ўтрачаную Незалежнасьць і сучасную сытуацыю ў краю. Даклад поўнасьцю выдрукаваны ў месячніку "АБН Корэспондэнс" у ангельскай мове за кастрычнік 1980 году, афіцыяльным органе Антыбальшавіцкага Блёку Нацыяўу Мюнхэне.

Рэзалюцыя аб Незалежнасьці Беларусі і дапамозе ў абароне беларускіх палітычных, рэлігійных і культурных вязьняў у СССР пры прыхільным падтрыманьні эўрапэйскіх прадстаўнікоў, была аднагалосна прынята без паправак Пленумам Канфэрэнцыі / зьмест у ангельскай мове пададзены ў гэтым часапісе/.

Зьмястоўны і падрабязны даклад аб паняволеных Масквою народаў зрабіла гасп-ня Стэцько.

XIII-ая Канфэрэнцыя ВАКЛ прайшла з поўным посьпехам і задэманстравала ўсяму сьвету, што вольныя народы ўсіх кантынэнтаў разумеюць маскоўскую і камуністычную пагрозу і супольна з паняволенымі народамі вядуць барацьбу супроць гэтай супольнай небясьпекі.

XIII-я ВАКЛ Канфэрэнцыя мае гістарычнае значэньне з тае прычыны, што яна адбылася першы раз на эўрапэйскім кантынэнце, у Швайцарыі і зьяўляецца "Аб'яднанымі Нацыямі Вольнага Сьвету", як яе назвала прыхільная швайцарская прэса.

Для нас Беларусаў гэтая Канфэрэнцыя ёсьць падвойна гістарычнай з тое прычыны,што ўсе прадстаўнікі Вольных Народаў Эўропы разам з прадстаўнікамі з усіх іншых кантынэнтаў, у вольным гістарычным месьце Жэнэве, урачыста, на Пленуме Аб'еднаных Нацыяў Свабоднага Сьвета, апрабуючы рэзалюцыю аб Незалежнасьці Беларусі, падцьвердзілі сваю волю,ужо раз выказаную ў гістарычнай пастанове і Прыамбуле Статуту Эўрапэйскай Рады Свабоды,дапамагаць беларускаму і іншым паняволеным Масквою народам у барацьбе гэтых народаў за аднаўленьне вольнасьці і незалежнасьці іхніх краінаў.

У гэтай справаздачы пададзены толькі галаўнейшыя пункты адносна Беларусі. Поўная справаздача хутка выйдзе з друку.

К.Крук.

Тытулы арэгіналаў: Дыялогі Самых найвялікшых людзей чалавечага роду.

Чуцца ніжэйшым за самога сябе- гэта ні што іншае,як глупота, а быць на вышыні свае годнасьці-гэта ні што іншае, як мудрасьць.

Сакратас. Пераклаў з грэцкае Ян Пятроўскі.

RESOLUTION ON THE INDEPENDENCE OF BYELORUSSIA AND ON THE DEFENCE OF BYELORUSSIAN POLITICAL, CULTURAL AND RELIGIOUS PRISONERS.

WHEREAS, in 1795, Byelorussia was by force of arms, conquered and annexed to Russia;

WHEREAS, the Byelorussian People will never cease to fight for their freedom and national independence which was proclaimed by the Act of March 25, 1918, and reaffirmed by the All-Byelorussian Congress in 1944;

WHEREAS, the totalitarian communist regime arrests thousand of the best sons of Byelorussia and deports them into concentration camps and imprisons them in insane asylums, as for example: Michel K u k a b a k a Eugen B u z i n n i k a u, Iwan K a r e j s c h a and others, who tried to oppose morally against the violence of the totalitarian ideology, and who tried to defend religion, the human rights and the Byelorussian nation,

THEREFORE THE XIII WACL CONFERENCE RESOLVES:

TO SUPPORT the inalienable rights of the Byelorussian nation to the freedom and independence in accordance with the Charter of the United Nations as recognized in the UN Declaration on Human Rights, International Covenance of Civil and Political Rights and the Declaration on the Granting of Independence for Colonial Countries and People.

TO APPEAL to the UNO, to the Governments and Parliaments of the free countries in the world to defend the Bylorussian prisoners repressed in the Soviet Union for their cultural, religious and political convictions, such as Michael Kukabaka, Eugen Buzinnikau, Iwan Karejscha and others, and request the abolition of concentration camps, political prisons and psychiatric establishments intended to break the willpower of the political, cultural and religious prisoners.

P.S. APPROVED BY X111 WACL CONFERENCE ON JULY 27TH, 1980

BYELORUSSIAN WACL CHAPTER

Справа беларускіх іншадумцаў была апісана ў Нр.I Званіцы /ст.I5-I8/.Міхал Кукабака,пасьля 6 гадоў турэмнага і псыхіятрычнага зьняволеньня быў у I976 годзе зволнены,але ў I979 арыштаваны ізноў за дамаганьне ўвядзеньня беларускай мовы,за выступленьне ў абароне правоў работнікаў і за эсэй: "Правы Чалавека і Дэтэнтэ ёсьць непадзельнымі".Яго турэмны адрас:2II440,Віцебская вобласьць,г.Новаполацк-35,Учреждение УЗ I5/I0- "Д",БССР /СССР/.Можа хто напіша да яго ліст?







СССР: ПРЫЧЫНЫ АЛКАГАЛІЗМУ У САВЕТАХ.

Як падае заходняя прэса, чаго не ўкрывае і савецкая-п'янства ў СССР сталася хваробай агульна распаўсюджанай у ваўсіх, так званых, савецкіх рэспубліках, не выключаючы і беларускай, улады выдаюць розныя суровыя дэкрэты накіраваныя на змаганьне з празмерным алкагалізмам, а адначасна прызнаюць сваім гарэлачным заводам узнагароды за перавыпаўненьне нормаў.

Справа ёсьць скамплікаванай у сэнсе фіскальным, бо продаж алькагольных напіткаў прыносіць дзяржаве несуразьмерныя вялікія даходы.

Ня гледзячы на "хранічныя неўраджаі" выкліканыя не прыродай, а даўно збанкрутаванай савецкай калектыўнай аграрнай сыстэмай, а дзеля гэтага і патрэбай імпорту мільёнаў тон збожжа з капіталістычных краін-ніколі няма недахопу бульбы ці збожжа для бровараў.

Алькагалізм у СССР ёсьць частай прычынай разьбіцьця сямейнага жыцьця / звыш 50% разводаў/ і вялікай колькасьці прагулаў у розных фабрыках і прадпрыемствах, а спэцыяльна па зарплатах. "Вытрэзвиловки" заўсёды перапоўнены.

Прычынай алкагалізму ёсьць агульная апатыя і дэпрэсыя насельніцтва, не з задаваленьня з існуючага ўжо звыж паўстаго - дзьдзя прымітыўнага жыцьця, аднабаковая партыйная прапаганда абапёртая на фалшу, а найгалаўнейшае, розьніца ў стандарце жыцьцёвым у,здавалася-б,бескласавым грамадзтве. З аднаго боку некалькітысячная "вярхушка" з палацамі, дачамі, яхтамі,надморскімі пэнсыянатамі, найлепшымі загранічнымі самаходамі са шматлікай службай,-гэта адна група.Тоне яна ў багацьці і іх жыцьцю могуць пазайздросьціць нават вялікія заходнія капіталісты. Другая група савецкай арыстакрацыі-гэта нейкіх I0-I5 мільёнаў вышэйшых урадоўцаў, дырэктараў і кіраўнікоў розных фабрык і прадпрыемстваў і членаў партыі камуністычнай. А рэшта-каля I40 мільёнаў, гэта пралетарыят "шэрая маса",інакш кажучы, вытрэніраваная і паслухмяная група нявольнікаў 20-га веку, веку прагрэсу і найвялікшых свабод у Заходніх краінах.

Так выглядае апавешчаны Ленінам часовы і пераходны пэрыяд " дыктатуры пралетарыяту",які ў практыцы ператварыўся ў нязьменную і пастаянную, бо трывае без перарыву звыж 63-х гадоў,"дыктатуру над пралетарыятам".

КАМУНІСТЫЧНЫЯ КРАІНЫ ЭУРОПЫ ТОНУЦЬ У ДАУГАХ.

Многія эканамісты, на чэле з праф. Сутанам / Злучаныя Штаты Амэрыкі/ цьвердзяць, што збанкрутаваная аграрная і прамысловая палітыка ўсіх камуністычных краін Эўропы на чале з СССР даўно была-б прычынай развалу штучнага каляніяльнага маскоўскага гіганта і падпарадкаванага яму саталіцкіх дзяржаў, каб не велізарная запамога Захаду, пераважна Амэрыкі. Імпорт збожжа і іншых кансумпцыйных прадуктаў, а ў першую чаргу тэхнічных і мэханічных вырабаў і машын абапёртых на

на нізка апрацэнтаваных і даўгатэрміновых крэдытах даў Маскве магчымасьць разбудаваць ваенныя сілы, якія сталіся пагрозай для ўсяго сьвету.

Задоўжанасьць камуністычных краін заходнім дзяржавам на пачатку 1980 году была астранамічнай:

| | | |
|---|---|---|
| СССР | 16,5 | мільярдаў даляраў, |
| Польшча | 24,0 | мільярдаў даляраў, |
| Нямеччына/Усх/ | 8,4 | мільярдаў даляраў, |
| Вэнгрыя | 7,5 | мільярдаў даляраў, |
| Румынія | 5,2 | мільярдаў даляраў, |
| Балгарыя | 4,1 | мільярдаў даляраў, |
| Чэхаславакія | 3,2 | мільярдаў даляраў, |

Заўвага. Пасьля страйкаў і легалізацыі ў Польшчы вольнага прафсаюзу "Салідарнасьць",новы варшаўскі рэжым, які Каня ачольвае сёньня I-шы Сакратар камуністычнай партыі Польшчы,зьвярнуўся да Злучаных Штатаў Амэрыкі а новую пазычку ў суме трох тысяч мільёнаў даляраў. З грашовай дапамогай і харчавымі прадуктамі на суму 700 мільёнаў даляраў паабяцала прыйсьці і Масква. Трэба прыпушчаць, каб "злекалізаваць і ўстрымаць заразьлівую польскую прафсаюзную хваробу" бо базуецца яна на фундамэнтальным прынцыпе: ВОЛЬНАСЬЦЬ. Рэалізацыя ідэі вольнасьці ёсьць для маскоўскіх дыктатараў непамерна больш небясьпечнай чымся атомныя бомбы. Гэта канец дыктатуры адзінак, гэта развал СССР, гэта фізычная ліквідацыя тыранаў, на сумленьні якіх ляжаць нявінныя ахвяры звыж сотні мільёнаў людзей.

Глінка.

## 5,000 МІЛЬЁНАЎ ЛЮДЗЕЙ У 1986 ГОДЗЕ

Згодна з абапёртым на статыстыцы прадбачаньнем Дасьледчага Інстытуту ў Вашынгтоне / З.Ш.А./ аб натуральным прыросьце насельніцтва ў сьвеце, ў 1986 годзе, калі ў міжчасе ня дойдзе да нейкага катаклізму, на нашым зямным шары будзе 5,000 мільёнаў людзей. У 1975 годзе, паводле падліку гэтага-ж Інстытуту, на сьвеце было 4,000 мільёнаў людзеі.

Дзяржавы з найвялікшай колькасьцю насельніцтва:

1/. Кітай- - - - - 965 мільёнаў,
2/. Індыя - - - - - 650 мільёнаў,
3/. СССР - - - 266 мільёнаў, ЗША - 223 мільёны
4/. Інданэзыя - - 148 мільёнаў,
5/. Бразылія - - - 119 мільёнаў,
6/. Японія - - - 118 мільёнаў.

Да п.1./ Да Кітаю не ўлічана кітайскае насельніцтва 18,5 мільёнаў незалежнага Тайвану /даўней Фармозы/, хоць Пэкін лічыць яго за сваю правінцыю.

Да п.3/. Толькі каля паловы насельніцтва СССР становяць Расейцы.







## БАЛЯНС МАСКОЎСКАЙ АЛІМПІЯДЫ

Згодна са Статутам міжнародных Алімпійскіх гульняў,маюць яны быць спаборніцтвам у розных відах спорту паміж найбольш выдатнымі спартсмэнамі народаў з усіх кантынэнтаў. Гэтая высокародная імпрэза мае служыць умацаваньню прыязьні і дружбы паміж народамі, а гэтым самым прадухіляць магчымасьць збройных канфліктаў.

Алімпіяды не павінны адбывацца ў таталітарных каляніяльных краінах дзяржаўнага нявольніцтва і масавага палітычнага тэрору, у якіх нацыянальныя і людзкія правы нарушаюцца і зневажаюцца ад звыш паўсотні гадоў, а да такіх належыць Савецкі Саюз. Апрача гэтага, пасьля 2-ой вайны Масква акупавала і заанэктавала тры незалежныя балтыйскія народы і устанавіла марянэтковыя і падпарадкаваныя сабе рэжымы ў 6 сатэліцкіх дзяржавах. І апошняе, гэта збройны несправакаваны напад і акупацыя незалежнага Афганістану.

Ня гледзячы на шматлікія пратэсты розных арганізацыяў, палітычных і грамадзкіх дзеячоў і паасобных адзінак супроць Маскоўскай Алімпіядзе / апісаны ў "Званіцы" Нр.2, ст. 18-19/, Міжнародны Алімпійскі Камітэт, чамусьці не адклікаў гэтай Алімпіяды і не перанёс яе ў іншую дзяржаву, Аднак у выніку пратэстаў, 50 дзяржаў, на чале з ЗША адмовіліся ўзяць удзел у Маскоўскай Алімпіядзе.

І хоць гульні адбываліся, але ў значна зьменшанай колькасьці спартсмэнаў,наведвальнікоў. і турыстаў. Варта пры гэтым дадаць,што ўсе загранічныя ўдзельнікі і госьці мелі аграмічаную свабоду руху. Усюды і заўсёды КГБ-істы, якія ў сутнасьці былі арганізатарамі гульняў, рабілі перашкоды. Дзеля гэтага, хоць і не ў даслоўным значэньні, ня будзе перавялічаньня, калі хто скажа, што гульні адбыліся "за калючымі дратамі".

## БЕЛАРУСКІЯ СПАРТСМЭНЫ ЗДАБЫЛІ 34 МЭДАЛІ.

Удзел у Алімпіядзе бралі 43 спартсмэны Беларусі. Удзельнічалі ў спаборніцтвах па 16 відах спорту. Заваявалі 34 мэдалі, у тым 15-аць залатых, 10-яць сярэбраных і 9-яць бронзавых.

## ФУТБОЛЬНЫЯ ГУЛЬНІ У МЕНСКУ.

У прыгожа і маляўніча ўбраным Менску футбольны турнір быў адчынены 20 ліпеня I9[illegible]0 году намесьнікам Старшыні Савета Міністраў БССР У. Міцкевічам. Прадбачылася 12 тысяч замежных турыстаў, прыбыло толькі каля 6 тысяч. Падчас прабываньня у Менску госьці пазнаёміліся з гісторыяй сталіцы і бралі ўдзел у экскурсыях. Аглядалі мэмарыяльныя камплексы, як: " Курган Славы", "Менск спартыўны"," Хатынь",-назва спаленай гітлероўцамі беларускай вёскі пасьля замардаваньня ўсіх жыхароў. Дарэчы, трэба адрозьніць мясцовасьць з падобнай назвай на Смаленшчыне / этнаграфічнай Беларусі далучанай да Расейскай СФР /,"Катынь",дзе вясной 1940 года НКВД-ысты замардавалі каля 5 тысяч польскіх афіцэраў.

## ЛЁНДОН

### АФГАНІСТАН-АНТЫСАВЕЦКАЯ ДЭМАНСТРАЦЫЯ.

У сувязі з інвазыяй і акупацыяй Чырвонай арміяй у канцы 1979 году незалежнага Афганістану, з інцыятывы лёнданскай групы Аф ганістанцаў, 19 ліпеня 1980 г. адбылася пратэстацыйная дэманстрацыя насупроць савецкай амбасады. Прамоўцы востра асудзілі гэтую новую маскоўска-камуністычную крывавую агрэсыю. Захопнікі прымяняюць у барацьбе са шматлікімі партызанскімі атрадамі найбольш варварскія мэтоды і ня гледзячы на звыш 100 тысячную армію уключна з трымя зматарызаванымі дывізыямі, яшчэ ня здолелі апанаваць усяго краю. Хоць партызаны паносяць вялікія страты, колькасьць іх павялічаецца з кожным днём. Адчуваецца недахоп мадэрнай зброі.

Праз аклямацыю была прынята рэзалюцыя з дамаганьнем вываду з Афганістану савецкіх войск, а таксама іншых краін паняволеных Масквой. Пастаноўлена выслаць рэзалюцыі удзельнікам канфэрэнцыі ў Мадрыдзе, якія падпісалі Гэльвінскі дагавор, а таксама дзяржаўным прадстаўнікам Задзіночаных Нацыяў. Было каля 60 плякатаў, пераважна украінскіх, з дамаганьнем вольнасьці для ўсіх народаў падбітых крэмлёўскімі камуністычнымі федэаламі. Удзел у дэманстрацыі з плакатамі бралі члены Беларускага Вызвольнага Фронту / лёнданскі аддзел/.

Афганістан здабыў незалежнасьць у палове 18-га. стагодзьдзя, ёсьць абшарам два з палавінай разы больш ад В. Брытаніі, насельніцтва 19-аць мільёнаў.

### ЛЁНДАН. ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ ЛАТВІІ.

18-га лістапада Згуртаваньне Латвійцаў у Лёндане ладзіла Акадэмію прысьвечаную 62-ім угодкам абвешчаньня незалеж - насьці Латвіі. Латвійскі пасланьнік Мр. Озолінс прывітаў прадстаўнікоў і гасьцей, а пасьля апісаў трагічную гісторыю свайго краю, які знайшоўся пад маскоўска-камуністычнай акупацыяй і ярмом. Расейцы праводзяць масавую дэнацыяналізацыю і русы - фікацыю гэтага невялікага народу. Амаль палова насельніцтва -гэта ўжо пераважна расейцы, або пераселеныя ў Латвію іншыя нацыянальнасьці, якія запаўняюць месца латвійцаў сасланых на катаргу, перасеrange у іншыя рэспублікі або асаджаныя ў турмах ці псыхіятрычных шпіталях.Масква- гэта пагроза ўсяму сьвету. Пасьля Афганістану і выдарэньняў у Польшчы, народы Заха - ду пачынаюць абуджацца. Прадбачыць хуткі развал краю няволі, якім ёсьць СССР.

Латвійскі хор / 16 жанчын і 20 мужчын/ прасьпяваў некалькі нацыянальных песьняў, закончыў латвійскім а пасьля ан - гельскім гімнамі. Пасьля Акадэміі было прыняцьцё/"коктэйл"/, прысутнічала звыж 400 асоб. Былі запрошаныя Беларусы і прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцяў.

НЕ ПАКІДАЙЦЕ МОВЫ РОДНАЙ КАБ НЕ УМЕРЛІ. Ф. БАГУШЭВІЧ.



### 12-Я ГАДАВІНА АКУПАЦЫІ ЧЭХАСЛАВАКІІ.

У сераду 20-га жнівеня 1980 г. адбыўся пратэстацыйны паход з флагамі і антыкамуністычнымі плакатамі да савецькай і чэхаславацкай амбасадаў. Падчас паходу праз увесь час на зьмену былі выкрыківаны праз мэгафон антысавецкія лёзунгі.

Паход затрымаўся насупраць чэхаславацкай амбасады,якая суседнічае з савецкай, але бліжэйшы доступ да апошняй забарыкадываны. Тут адбыўся дэманастрацыйны мітынг. Чэхаславацкі ксёндз Лянг у скарочаньні апісаў трагічныя дні, якія мелі месца дакладна 12 гадоў таму назад, калі савецкая армія ў асысьце ваенных аддзелаў польскіх,усходня-нямецкіх, вэнгерскіх і балгарскіх акружылі і ўварваліся на тэрыторыю Чэхаславакіі. Пасьля кароткай але гераічнай абароны Чэхаславакія была акупаванай.

Прычыны нападу і акупацыі былі лібэральныя рэформы тагачаснага 1-га Сакратара Камуністычнай партыі Дубчэка, якія калідавалі з палітыкай і дыктатамі Масквы. Паводле савецкай вэрсыі, гэта мела быць толькі часовая акупацыя краю братняй дзяржавай /СССР/ на просьбу прадстаўнікоў чэхаславацкага народу і толькі ў абаронных намерах перад "праектаванай амэрыканскай агрэсіяй".

Хутка маскоўскія сатрапы ўстранілі Дубчэка назначаючы на яго месца вытрэнаванага ў Маскве, адданага і паслухмянага Густава Гусака, які поўнасьцю пераняў і прышчапіў свайму народу паліцыйныя, палітычныя і аграрныя мэтоды сваіх маскоўскіх апякуноў пры падтрымцы 100 тысячнай Чырвонай арміі, якая "часова" па сёньняшні дзень знаходзіцца ў Чэхаславакіі.

Дарэчы, гэтыя самыя матывы былі пададзены Масквой падчас крывавай акупацыі Вэнгрыі ў 1956 годзе і апошняе, Афганістану ў 1979 годзе: ізноў дзеля "прадухіленьня амэрыканскай агрэчыі". Ці гэта не супэр-пэрфідыя?

Перад заканчэньнем дэманастрацыі была праз аклямацыю прынята рэзалюцыя, якая востра асуджала брутальную акупацыю Чэхаславакіі і іншых краін з дамаганьнем выводу з іх савецкіх войск і прызнаньне Чэхаславакіі і ўсім паняволеным Масквой народам праўдзівай вольнасьці і незалежнасьці. Рэзалюцыя была даручана чэхаславацкай і савецкай амбасадам і выслана ўрадам незалежных дзяржаў і прадстаўнікам Задзіночаных Нацыяў.

Беларусы Лёндану салідарна бралі ўдзел у дэманстрацыі і поўнасьцю падтрымалі рэзалюцыю.

АНГЛІЯ. Вартасьць ангельскага фунта- 21 пэн.

Згодна з асьведчаньнем у ангельскім Парламанце Мр.Біфэна,Галоўнага Сакратара Міністэрства Фінансаў, пакупная вартасьць фунта спала за 16 гадоў амаль на чатыры пятых. За прадукты купленыя ў 1964 годзе за 21 пэн, цяпер, у1980 годзе трэба плаціць 100 пэнсаў.

ЛЁНДАН.

## 60-Я УГОДКІ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ.

У нядзелю 30 лістапада 1980 года Лёнданскі Аддзел Беларускага Вызвольнага Фронту ладзіў Акадэмію прысьвечаную 60-ым угодкам Слуцкага Паўстаньня.

Пасьля Царкоўнае Службы, настаяцель прыходу мітр. протаерэй а. В. Тарановіч, сам Случчак, разам з протадыяканам а. У. Марозам адслужылі паніхіду за Случчакоў і тых, якія змагаліся ў партызанскіх атрадах з бальшавікамі і аддалі сваё жыцьцё за вольнасьць і незалежнасьць Бацькаўшчыны. Паніхіда закончылася адсьпяваньнем царкоўнага гімну.

Акадэмія адбылася ў царкоўнай залі. Распачалася малітвай і прывітаньнем прысутных, пасьля чаго дакладчык у сваім рэфэраце даў агляд збройных падзеяў на Слудчыне і шырэйшага партызанскага змаганьня ў краю. На жаль, недахоп аружжа і амуніцыі былі галоўнымі прычынамі перамогі бальшавікоў. Заходнія дзяржавы не падтрымалі аспірацыяў ані Украіны, аніБеларусі, дзеля чаго рэзультат змаганьня быў да прадбачаньня. Захад памог толькі Польшчы і Балтыйскім краінам, якія, прынамся праз дзьве дэкады мелі сваю незалежнасьць.

Гасп. Глінскі адчытаў прывітаньні ад Прэзыдэнта БЦР і ад Начальніка Галоўнага Штабу БВФ / падающца поўнасьцю/ і злажыў асабіста ад Дэлегатуры Беларускай Цэнтральнай Рады, ад Дэлегатуры Антыбальшавіцкага Блёку Нацыяў і ад Лёнданскага Аддзелу БВФ, падкрэсьліваючы, што паводле яго, першыя гады новай дэкады прынясуць вялікія зьмены ў міжнародным маштабе. Выдараньні ў Польшчы-гэта пачатак краху штучнага твору, якім ёсьць СССР, дзе адзінкі пры прымяненьню масавага тэрору трымаюць у паняволеньні, уключаючы сатэліцкія краіны і Афганістан, каля 400 мільёнаў людзей.

Пасьля гасп. Залога, сваім моцным і мэлёдыйным барытонам прыгожа і з артызмам прадэклямаваў наступныя вершы: "НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ" П. Броўка. Цвяток радзімы васілька. М. Багдановіч.

ТЫ,ГОМО КОСМІКУС, МОЙ БРАТ. Максім Танк.

Прысутныя былі ўсхваляваны магутнасьцю і багацьцем, беларускай культуры, за што дэкляматара ўзнагарадзілі шчодрымі апладысьментамі.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага і ангельскага нацыянальных гімнаў.

Прысутны.



## ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ !

Яўныя факты сьведчаць, што палітыка бальшавіцкай Масквы ў адносінах да Беларусі не была накіравана на дабро Беларускага Народу, бо на Беларусь Масква глядзела толькі як аб'ект эксплаатацыі, як на нутраную калёнію. Вось таму 60 гадоў таму назад адважныя Случчакі выступілі супроць камуністычнай агрэсыі, задэманстравалі перад вольным сьветам сваю волю і адданасьць за Незалежнасьць Беларусі.

Яны загінулі, каб жыла Беларусь, а памяць аб іх застаецьца вечна з намі. Адважныя Случчакі слаўнае мінуўшчыны Беларускага Народу належна ацанілі няволю ў 1920 г.-1944 г. БКА. Для славы Случчакоў і Жаўнераў Другой сусьветнай вайны сьпяваюць лістападовыя вятры, скідаючы на іх забытыя магілы пажоўклае лісьцё замест лаўровых вянкоў.

Вось з гэтай нагожы вітаем Вас з 60-мі Угодкамі Слуцкага Паўстаньня і і ўшануем іх памяць тут на эміграцыі.
Няхай жыве Вольная і Незалежная Беларусь!
а таксама Яе Народ.

Жыве Беларусь!
Сакратар В. Цярпіцкі
З.Ш.А. Эміграцыя лістапад 1980 г.

/-/ Н. Мядзейка
Прэзыдэнт БЦР.

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ І УСЕ СУРОДЗІЧЫ!

У 60-тыя Угодкі Вялікага Патрыятычнага УзДыму Слаўных Случчакоў шчыра вітаю ўсіх Вас!

Змаганьне за волю і лепшую долю нашага народу трывае далей. У той час, як беларускі народ на бацькаўшчыне ўсімі сіламі бароніцца ад русыфікацыі, гаспадарчага, культурнага і рэлігійнага прыгнёту, мы ў Вольным Сьвеце пашыраем вызвольную Ідэю нашага народа, Ідэю Вольнай і Незалежнай Беларусі.

Але для міжнароднай працы патрэбныя ёсьць вялікія высілкі і матэрыяльныя сродкі.

У гэтым Юбілейны 60-ты Год Сьвяткаваньня памяці вялікай самаахвярнасьці Случчакоў прызываю Вас усіх, Дарагія Сябры і Суродзічы да самаахвярнасьці. Прызываю Вас унесьці сваю ахвяру ў Вызвольны Фонд БВФ і ў Беларускі Нацыянальны Фонд, якія аплачваюць удзел Беларускай Рэпрэзэнтацыі ў міжнародных Канфэрэнцыях, паседжанях і працы перадавых Сусьветных, свабодалюбівых Арганізацыях.

Гэтай сваёй матэрыяльнай ахвярай Вы падтрымаеце Ідэю Слаўных Случчакоў і выканаеце сваю салідарнасьць з усім беларускім

народам у ягоным змаганьні за лепшую долю і за аднаўленьне Вольнай і Незалежнай Беларусі.

Вечная Слава Несьмяротным Случчакам!

Хай жыве Вольная і Незалежная Беларусь!

Лістапад, 1980 г. Д. Касмовіч

Начальнік ГШ Беларускага Вызвольнага Фронта.

ПАГОНЯ

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,
Успомню Вострую Браму сьвятую
І ваякаў на грозных канях.

У белай пене праносяцца коні,
Рвуцца, імкнуцца і цяжка хрыпяць..
Старадаўняй Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць.

У бязьмежную даль вы ляціце,
А за вамі, прад вамі-гады.
Вы за кім у пагоню сьпяшыце?
Дзе шляхі вашы ідуць і куды?

Мо' яны,Беларусь, панясьліся
За тваімі дзяцьмі ўздагон,
Што забылі цябе, адракліся,
Прадалі і аддалі ў палон?

Бійце ў сэрцы іх - Бійце мечамі
Не давайце чужынцамі быць!
Хай пачуюць, як сэрца начамі
Аб радзімай старонцы баліць...

Маці родная, Маці-Краіна!
Ня ўсьцішыцца гэтакі боль...
Ты прабач, Ты прымі свайго сына,
За цябе яму ўмерці дазволь!..

Усё лятуць і лятуць тыя коні,
Срэбнай збруяй далёка грымяць...
Старадаўнай Літоўскай Пагоні
Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць.

1916 год. Максім Багдановіч.






АЎСТРАЛІЯ.
200-тая БЕЛАРУСКАЯ РАДЫЁПЕРАДАЧА У АЎСТРАЛІІ.

Пачаўшы ад 2І чэрвеня 1976 года ў Аўстраліі /Сыднэй/ адбываюцца рэгулярна радыёперадачы ў беларускай мове. Трывалі яны даўней паўгадзіны, цяпер цэлую гадзіну ў аўторкі вечарам ад 8.15 да 9.15, час выгадны для слухачоў. Каардынатарам перадач ёсьць гасп. Аркадзі Качан. Жадаем посьпеху.

ВАТЫКАН
30-ТАЯ ГАДАВІНА БЕЛАРУСКІХ РАДЫЁПЕРАДАЧАЎ З ВАТЫКАНУ.

Беларускія радыёперадачы з Рыму вядуцца ад 30-ці гадоў. Запачаткаваныя былі Пралатам Пётрам Татарыновічам пры дапамозе а. К. Маскаліка. Пасьля кіраўніцтва перайшло на а. Архімадрыта Гарошку, а па яго сьмерці ў 1977 годзе, на а. др. Р. Тамушанскага і а. К.Маскаліка. Час беларускіх перадачаў: панядзелак, аўторак, серада, чацьвер, пятніца і нядзеля а гадзіне 16.45 сярэдняэўрапэйскага часу на кароткіх хвалях 25м., 3І м. і 4І м.

ЛЁНДАН.
МІЖНАРОДНАЯ МАНІФЭСТАЦЫЯ З КРЫЖАМІ ЗА ПРАСЬЛЕДАВАНУЮ ЦАРКВУ.

Камітэт " Помач Царкве ў Бядзе" арганізаваў 28 верасьня 1980 г. у Вестмінскай Каталіцкай Катэдры працэсыю з крыжамі шматлікіх нацыянальнасьцяў. Удзел у працэсыі бралі Беларусы каталікі і праваслаўныя. Нацыянальныя групы арганізаваліся і ўваходзілі ў Катэдру ў парадку альфабэтычных. На Крыжах былі напісы нацыяў у ангельскай мове. Апрача Крыжа з напісам, беларуская група нясла харугву з іконай Жыровіцкай Божай Маці з аднаго боку, а з Пагоняй з другога. Пры ўручэньні кветак Біскупу Бурку, які спатыкаў уваходзячыя групы, Беларусы адсьпявалі беларускі царкоўны гімн "Магутны Божа". Беларускую групу ачольвалі Айцы Ф. Журня і Я. Пекарскі. Маніфэстацыя была арганізаваная бельгійскім манахам а. Варэнфрыдам, добра ведамым сваёй ахвярнай дзейнасьцю. Грашавая помач патрабуючым перавышала ў 1979 годзе 5 мільёнаў фунтаў.

МАЛЫ АЛЕСЬ

Нeяк жартам Юрка Лысы
У Алеся стаў пытаці:
Эй ты, слухай, белабрысы,
Як, скажы мне, цябе зваці?

Алесь зараз адгукнуўся:
Ці-ж яшчэ не знаеш, дзядзька,
Дык таксама я завуся,
Як і мой завецца бацька.

А як бацька, зноў спытаўся,
/Усё па свойму Юрка хлусіць/,
Алесь горда адазваўся:
Бацька-ж так як я завуся.

Ну, а як цябе абедаць
Да стала вось зазываюць?
Мне хацелася-бы ведаць,
Ці цябе мо забываюць?

Ну, тут мушу я сказаці,
Што на просьбу не чакаю,
Дык за стол ня трэба зваці,
Бо я перш за ўсіх бываю. Гох.

## СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ ІВАН ЛЕБЕДЗЕЙСКІ
## /20.10.1923-29.7.1980/.

На 57-ым годзе жыцьця памёр неспадзевана сьв. памяці Іван Лебедзеўскі. Нарадзіўся Ён у вёсцы Баяры, Пінскага раёну. Пасьля вайны, разам з іншымі Беларусамі дастаўся Лебедзеўскі ў Вялікую Брытанію, дзе праз даўжэйшы час працаваў на будаўніцтве.. З увагі на хваробу сэрца быў змушаны раней перайсьці на пэнсыю. Ад часу да часу выконваў лёгкую працу, памагаючы прыяцелям і знаёмым пры рамонце дамоў ці дэкарацыі іх.

Лебедзеўскі быў чалавекам паважным, спакойным,негаваркім, ніколі не расказваў аб сваёй мінуўшчыне. Належаў да Царкоўнага Камімэту Беларускай Праваслаўнай Царквы сьв. Ефрасіні ў Лёндане. Падчас сьвяткаваньняў ці танцавальных вечарын заўсёды заахвяроўваў сваю помач, браў актыўны ўдзел у царкоўна-грамадзкім жыцьцю.
Быў добрым Беларусам-патрыётам. З увагі на незадаваляючы стан здароўя ня змог браць удзелу ў дэманстрацыйных палітычных паходах, у меру сваіх скромных магчымасьцяў падтрымліваў беларускую нацыянальную ідэю маральна і матэрыяльна.

Паховіны адбыліся ўрачыста. Хоць быў гэта будні дзень /пятніца, гадзіна 1.30 папоўдні/, у царкве сабралася каля 140 чалавек. Службу адправіў мітр. протаерэй а. Тарановіч і протадыякана. Мароз, пасьля чаго нябошчык быў пахаваны на Мортлейскіх могілках. Ад прыходу быў зложаны вянок уложаны артыстычна з нацыянальных коляраў і 17 прыгожых букетаў ад Яго сям'і прыяцеляў і знаёмых.

Пасьля паховінаў было прыняцьцё ў царкоўнай залі ладжанае Сястрыцтвам прыходу на рахунак сям'і сьв. памяці Лебедзеўскага: жонкі з другога сужэнства і чацьвярох дарослых дзяцей з першага сужэнства / дзве дачкі і двух сыноў/. Сыны І. Лебедзеўскага асягнулі высокую адукацыю. Старшы сын Міша здабыў дактарат на слынным ангельскім Оксфордзе, і прыпадаваў матэматыку на Унівэрстытэце, а меншы сын Андрэй канчае навуку на доктар мэдыцыны.
Хай будзе Табе лёгкай зямелька гасьціннага ангельскага Народу, хай сьняцца добрыя сны аб скрадзенай, абрабаванай і многапакутнай Бацькаўшчыне, куды не было Табе суджана вярнуцца.

ЛЁНДАН.

## ГАДАВЫ ЗЪЕЗД ЗБВБ.

7 ліпеня 1980 года адбыўся Агульны Гадавы Зьезд сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Пасьля справаздачы Галоўнай Управы, Аддзелаў і Управаў сяброўскіх клюбаў і дыскусыяў над імі, Зьезд адабрыў дзейнасьць Управы і зложыў падзяку. Новая Галоўная Управа выбрана ў наступным складзе: Я. Міхалюк-старшыня, А. Жданковіч-Заступнік Старшыні, П. Навара-Сакратар, П.Асіповіч-Скарбнік,А.Лашук і Я.Сяўковіч-Сябры. У Наглядную Раду выбраны:Міхалюк-Старшыня,Н.Шпігановіч-Сакратар і Х. Лемяшонак- Сябра.







## СЬВ. ПАМЯЦІ ЗІНОВІЯ МАРОЗ.

Дня 10-га верасьня 1980 года ў Лёндане спакойна закончыла сваё зямное падарожжа Зіновія Мароз, парафіянка мясцовай Беларускай Праваслаўнай Царквы сьв. Эўфрасіньні Полацкай.
Нарадзілася яна 24 чэрвеня 1897 года ў сяле Атверджыцы Столінскага павету на Палесьсі.

Вышла замуж за Андрэя Мароза, які меў добрую пасаду ў лясьніцтве Сельскагаспадарчага Банку. Мелі чацьвёра дзяцей: Мікалая, Олю, Уладзіміра і Люсю. Жылі перад вайной у дастатку ў сяле Струга, Столінскага павету.

Даходзіць да 2-ой сусьветнай вайны. Сям'я Марозаў спаткае лёс як і дзесяткі тысяч іншых жыхароў Заходняй Беларусі. Дня 10-га лютага 1940 года НКВД-ысты вывозяць усю сям'ю Марозаў на далёкую, дзікую, халодную і галодную поўнач у пасёлак Заазер'е, Плясецкага раёну, недалёка Архангельска над Белым морам. Неўзабаве паміраe муж Зіновіі, якая, са старэйшым сынам Мікалаем, у прымітыўных і небывала цяжкіх абставінах змушаны цяжка працаваць каб утрымаць пры жыцьці сябе і трое непаўналетніх дзяцей.

Суровы клімат, а гэтым самым холад і голад - гэта былі сталыя спадарожнікі Зіновіі праз паўтары года на гэтай нялюдзкой зямлі, зямлі пакутаў і гаротных цярпеньняў мільёнаў нявінных людзкіх ахвяр.

У сувязі з Нямецка-Бальшавіцкай вайной і вымушанай на Сталіне заходнімі лідэрамі "амнэстыі" для былых польскіх грамадзян бяз розьніцы на нацыянальнасьць ці веравызнаньне,-Зіновіі з сям'ёй удалося выехаць у 1942 годзе ў Тэгеран /Пэрсыя перайменавана на Іран/. Перад прыездам, сын Мікалай быў змабілізаваны ў польскае войска, якое арганізавалася ў СССР. У Тэгеране памерла дачка Люся. З дачкой Оляй і сынам Уладзмірам, разам з іншымі падобнымі выгнаньнікамі, у пераважнай бальшыні Палякамі, Зіновія была перавезена ў Усходнюю Афрыку, сёньняшнюю Танзанію, дзе працавала на сельскай гаспадарцы ў агародніцтве.
У Англію прыехалі ў ліпені 1948 года, дзе спаткаліся з сынам Мікалаем. Быў ён цяжка ранны пад Монтэ Касыно, меў некалькі апэрацыяў і хутка, пасьля апошняй памёр у Лёндане,16.8. 1949 г. Зіновія жыла ў Лёндане ў дабрабыце пры замужней дачцэ Олі Жынгель /муж яе Фёдар, Віцэ-Старшыня Царкоўнага Камітэту і іх дачка Люся, унучка Зіновіі/ і пры жанатым сыне Пратадыякане а. Уладзіміру/ Матушка Марыя і двух сыноў: Мікалай і Андрэй, унукі Зіновіі/. Жылі яны ўсе дружна ва ўласным доме ў асобных флятах.
Зіновія была асобай спакойнай, ветлівай, добразычлівай, вельмі гасьціннай, вітала кожнага з прыемным усьмехам. Была пабожнай, глыбока веруючай і добрай патрыёткай-Беларускай. У такім духу выхавала і сваіх дзяцей. Актыўнага ўдзелу ў грамадзка-нацыянальным жыцьці не магла браць з увагі на зааван-

саваны век /83/, але заўсёды прысутнічала на розных нацыянальных сьвяткаваньнях даючы гэтым самым маральную падтрымку нацыянальным ідэям свайго Народу.

Цешылася вялікім даверам людзей. Мела, як і ўся яе сям'я, многа блізкіх і адданых прыяцеляў і добрых знаёмых. Доказам гэтага былі небывала ўрачыстыя паховіны са шматлікім удзелам пераважна беларускага грамадзтва. У царкве, хоць быў гэта рабочы дзень, сабралася звыш 200 асоб, некаторыя з далёкіх канцоў Англіі. Вянкоў і букетаў было дакладна 65, тры з заграніцы: з Канады, Бэрмуды і Францыі. Службу меў мітр. пратаерэй а. Тарановіч, Настаяцель царквы і прыходу разам з протадыяканам а. Марозам, сынам памёршай. Згодна з апошнім жаданьнем Зіновіі, была яна пахавана на Бромптон магільніку разам з сынам Мікалаем. Падчас паховін, згодна з традыцыяй, прысутныя кідалі на труну па жмені зямлі. Быў узрушаючы момант, калі ўлюбёны ўнук Зіновіі, Андрэй, на апошняе разьвітаньне ўкінуў у яму на труну дзьве сьвежыя чырвоныя розы. Сьпі спакойна. Хай сьняцца добрыя сны аб спакойным, родным Палесьсі.

Усе прысутныя ў царкве былі запрошаны сям'ёй Зіновіі на абед у мадэрністычны польскі рэстаран ПОСК-у. Асобная зала была прыгатавана густоўна і эстэтычна з прафэсыянальнай абслугай. Прыняцьце складалася з поўнага абеду са смачнымі патравамі і віном. На абедзе было 85 чалавек.

К. Г.

## ЗАГІНУЎ ПЁТР МАШЭРАЎ УЛАДАР БЕЛАРУСІ.

Згодна з афіцыяльнай савецкай вэрсыяй, 4 кастрычніка 1980 года " ў аўтамабільнай катастрофе загінуў" першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі, кандыдат у члены Палітбюра ЦК КПСС, і член Прэзыдыюма Вяршоўнага Савета СССР, Пётр Машэраў у веку 62 гады.

Нарадзіўся ён 13 лютага 1918 года у вёсцы Шыркі. Віцебскай вобласьці ў беднай беларускай сялянскай сям'і. Меў вышэйшую адукацыю, належаў да камуністычнай партыі, браў актыўны ўдзел у партызанскім руху ў Вілейскім раёне падчас нямецкай акупацыі Беларусі. Пасьля займаў розныя кіруючыя становішчы, а ў 1965г. быў вызначаны Масквой першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі. Паводле згоднай апініі заходняй прэсы, меў ён быць вызначаны на месца адсунутага прэм'ера Касыгіна. У нэкралёгу падпісаным Брэжнёвым, членамі Палітбюра і іншымі выдатнымі савецкімі ўрадоўцамі не выключаючы беларускіх, фігуравала аж 60 падпісаў. Вылічаны былі заслугі Машэрава і прызнаныя яму шматлікія ўзнагароды. Паховіны адбыліся ў менску з вялікай помпай і гонарам.

Хоць Машэраў быў Беларусам з паходжаньня, энэргічна праводзіў у сваім краю палітыку накіраваную Масквой асыміляцыйную і русыфікацыйную.

Заўвага, лёнданскі "Дзеньнік Польскі" з 7 кастрычніка 1980г. апісваючы выпадак з Машэравым, слова "Беларусь" ці "беларускі" памінуў.



ЛЁНДАН.

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ ПАД ЛОЗУНГАМ: "ВОЛЬНАСЬЦЬ НАЦЫЯМ ПАНЯВОЛЕНЫХ МАСКВОЙ"

Пад канец сьнежня або ў пачатку 1981 года, мае закончыцца Канфэрэнцыя ў Мадрыдзе, якая ёсьць прадаўжэньнем і праверкай Гэлсінскага Дагавору з 1975 года, у якой бяруць удзел прадстаўнікі тых самых 33 Эўрапэйскіх краін, ЗША і Канады. Зьмест Гэлсінскага Дагавору ў скандэнсаванай форме быў пададзены ў Нр. 3 " Званіцы" /ст. 29-30/.

Дзесяткі палітычных, рэлігійных, навуковых і нацыянальна-грамадзкіх арганізацыяў, уключна з беларускімі, зложылі ўдзельнікам Канфэрэнцыі абгрунтаваныя мэмарыялы з дакладамі вылічэньнямі толькі ведамых маскоўскіх злачынстваў: праследаваньне палітычных, рэлігійных і нацыянальных іншадумцаў з іх прозьвішчамі, якія запаўняюць турмы, псыхіятрычныя шпіталі і канцэнтрацыйныя лагэры ў СССР. Гэта ёсьць у супярэчнасьці з успомненымі пастановамі Гэлсінскага Дагавору, Чартырам Задзіночаных Нацыяў, Унівэрсальнай Дэкляряцыяй Правоў Чалавека. і іншымі міжнароднымі ўмовамі падпісанымі прадстаўнікамі Масквы. Нарушэньне і пагвалчваньне гэтых прынятых дабравольна забавязаньняў было прычынай дэманстрацыяў, арганізаваных украінцамі якія адбываліся праз чатыры суботы 8.15.22 і 29 лістапада 1980 года насупроць савецкай амбасады. Было звыш 60-ці плакатаў з антыкамуністычнымі і анты-расейскімі лозунгамі. Прамоўцы дамагаліся дэкалянізацыі расейскай імпэрыі, звальненьня палітычных і рэлігійных іншадумцаў і вольнасьці паняволеным народам. У дэманстрацыях браў удзел Лёнданскі Аддзел Беларускага Вызвольнага Фронту з дамаганьнем "Вольнасьці для Беларусі".

ЛЁНДАН.

## ДАКЛАДЫ НА БЕЛАРУСКІЯ ТЭМЫ.

У чэрвені 1980 года закончыўся 14-ці гадовы курс дакладаў на беларускія тэмы ладжаныя Ангельска-Беларускім Таварыствам, якія адбываліся ў залі пры Беларускай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Даклады мелі Ангельцы, вучоныя іншых нацыянальнасьцяў і Беларусы. Пераважна ўсе даклады друкуюцца ў "Журнале Беларусаведы" ў ангельскай мове. З увагі на высокі навуковы ўзравень і аб'ектыўнае распрацаваньне некаторых малаведамых, або няведамых гістарычных фактаў, запатрабаваньне на журнал навуковымі установамі пашыраецца, Шмат высылаецца ў краіны поза "Жалезнай Заслонай".

БССР.

## УКРАІНСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК, І ІНШЫЯ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ?

Кандыдат філасофскіх навук В. Лемцюгова апрацавала "Украінска-беларускі слоўнік", які пад рэдакцыяй акадэміка Акадэміі Навук БССР М. Бірылы і доктара філалягічных навук, прафэсара А. Супруна вышаў у выдавецтве " Вышэйшая школа".

Выданьне гэтае ёсьць дапаможным перакладчыкам, пісьменьнікам, журналістам і ўсім, хто будзе чытаць мастацкія творы, часапісы і іншую літаратуру на ўкраінскай мове. У слоўнік увайшлі толькі тыя словы, словазлучэньні, прыказкі і прымаўкі, якія па-беларуску гучаць інакш, чым на ўкраінскай мове/разам каля 30 тысяч слоў/.

Гэты самы акадэмік АН БССР М. Бірыла разам з А. Обрэмбскай-Яблонскай зложылі "Падручны Польска-беларускі слоўнік", які быў выданы ў Варшаве ў 1962 годзе выдавецтвам "Ведза Повшэхна", на вельмі добрай паперы, бачын 1,084. Хоць ёсьць апрацаваны слоўнік " Беларуска-польскі", але да гэтага часу Масква не дае дазволу на яго выданьне. Тое самае са слоўнікам "Беларуска-украінскім", Ці не варта было-б выдаць таксама слоўнікі "Ангельска-беларускі" і Беларуска-ангельскі", а то з увагі на вялікае зацікаўленьне ангельскімі і амэрыканскімі вучонымі мовай, літаратурай і гісторыяй Беларусі.

Беларусы на эміграцыі, а таксама ў краю, даўно чакаюць на новыя і значна пашыраныя слоўнікі:" Расейска-беларускі", які быў выданы ў 1953 годзе ў Маскве / тыраж 50,000 экзэмпляраў/і " Беларуска-расейскі", выданы таксама ў Маскве/ тыраж толькі 15,000 экзэмпляроў/, пры чым папера, на якой былі друкаваныя гэтыя слоўнікі, была, хіба, найгоршай, якую можна выпрадукаваць толькі ў СССР. Па некалькі гадах папера здэкалярызавалася і часткова спарахнела. Трэба спадзявацца, што вельмі патрэбныя наступныя выданьні будуць друкаваныя на добрай паперы і з павялічаным тыражам.

## ЦІХАН КІСЯЛЁЎ-НОВЫ ПЕРШЫ САКРАТАР КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.

На месца загінуўшага Пётра Машэрава, уладара Беларусі, пленум ЦК Кампартыі Беларусі 16 кастрычніка 1980 г. выбраў /чытай: быў вызначаны Масквой/, Ціхана Кісялёва назначылі першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі, які займаў становішча намесьніка Старшыні Савета Міністраў СССР. Кісялёў нарадзіўся ў 1917 годзе ў Гомельскай вобласьці, сын селяніна. Беларус. Член партыі ад 1940 года. Мае вышэйшую асьвету. З 1959 года працаваў Старшынёй Савета Міністраў Беларускай ССР За заслугі перад Камуністычнай партыяй і Савецкай дзяржавай узнагароджаны многімі ордэнамі і мэдалямі.

Трэба прыпушчаць, што будзе паслухмяным выканаўцам загадаў Масквы.



## СЬВ.ПАМЯЦІ ДР. СТАНІСЛАВУ СТАНКЕВІЧ.

Дня 6-га лістапада 1980 года памёр у Нью Ёрку /ЗША/ Др.Станіслаў Станкевіч, адзін з выдатнейшых беларускіх дзеяоў навукова-літаратурных і грамадзка-палітычных на эміграцыі.

Нарадзіўся ён у вёсцы Арляняты, Вілейскага павету, Віленскага ваяводзтва. Скончыў Беларускую Віленскую Гімназію і дадаткова ў 1927-ым Польскую ў Вілейцы. Ад 1927 да 1933 года студыяваў ён гуманістычныя навукі ў Віленскім Унівэрсытэце і браў актыўны удзел у іншых беларускіх грамадзкіх і навуковых арганізацыях. Быў карэспандэнтам і членам Рэдакцыйнай Калегі месячніка " Студэнцкая Думка" а таксама часапісу "Маладая Беларусь".

У 1936 годзе напісаў навуковую працу пад загалоўкам "Беларускія элемэнты ў творчасьці Адама Міцкевіча", за якую гэтымжа Унівэрсытэтам быў яму прызнаны тытул " Доктара Філязофіі". У 1938/1939 быў настаўнікам у Польскай дзяржаўнай Гімназіі ў Дзісьне.

Падчас нямецкай акупацыі Беларусі праз нейкі час быў Бургармістрам у Барысаве, а пасьля Намесьнікам БЦР на Баранавіцкую акругу. Удзельнік 2-га Усебеларускага Кангрэсу ў Менску.

Пасьля вайны дастаецца ў Нямеччыну дзе як радактар "Бацькаўшчыны" ў далейшым вядзе працу ў тым самым напрамку. Безкампрамісова змагаецца пяром супраць камуністычнага маскоўскага рэжыму, які паняволіўшы Беларусь, ператварыў яе, як і іншыя краіны, у свае эксплёатаваныя калёніі. Змагаецца з асыміляцыяй і русыфікацыяйнай маскоўскай палітыкай, найбольш жорсткай у Беларусі, а таксама з масавым гэнасыдам. Раскрывае і асуджае маскоўскія злачынствы, нацыянальныя, палітычныя і рэлігійныя прасьледваньні. Змагаецца за чысьціню беларускай мовы, мовы, якая пад прэсыяй выціскаецца расейскай нават з прыватнага,ўжытку. Мовы, якая праіснавала звыж тысячы гадоў, цяпер паміраe ў сваёй уласнай канстытуцыйна " незалежнай" Беларусі. Змагаецца таксама з перакручваньнем і фальшаваньнем гісторыі Беларусі. Сам апісвае яе дзяржаўную мінуўшчыну да 17-га стагодздзя, абапёртую на фактах, дакумэнтах і аб'ектыўных незалежных крыніцах.

Др. Станкевіч быў мастаком беларускага слова, стаяў заўсёды ў абароне беларускай нацыянальнай культуры вядучы адначасна змаганьне за Вольнасьць і Незалежнасьць Бацькаўшчыны. Яго голас даходзіў у край, дзеля чаго Др. Станкевіч быў неаднакратна пад абстрэлам Менска.

Др. Станкевіч быў рэдактарам "Беларуса" ад 1951 года аж да канца свайго жыцьця. Пакінуў жонку Зінаіду і дачку Раісу, якія былі Яго сталой апорай і дапамогай у зьменных жыцьцёвых абставінах і супрацоўнікамі-карэспандэнткамі "Беларуса".

Паховіны Др. Станкевіча адбыліся на беларускім могільніку пасьля Сьв. Літургіі, якую адслужыў а. Архімадрыт Тарасевіч пры ўдзеле каталіцкага і праваслаўнага духавенства пры шматлікай колькасьці прысутных прыяцеляў і знаёмых.

ЛЁНДАН.

## ТАНЦАВАЛЬНЫ ВЕЧАР.

Камітэт Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Ефрасіньні ладзіў у 1980 годзе толькі дзве танцавальныя вечарыны, як і папярэднімі гадамі, у царкоўнай залі пры англіканскай царкве "Голі Іносентс". Удзельнічалі пераважна Беларусы, хоць былі госьці і іншай нацыянальнасьці. Зьбіралася, прыблізна, 80 чалавек, людзі пераважна ў сярэднім, а нават старэйшым веку. Малавата моладзі. Пажаданым было-б, каб бацькі стараліся рабіць уплыў на сваіх дзяцей, каб прыходзілі на Царкоўныя службы і на беларускія вечарыны, забавы, музыкі.

Усе вечарыны мелі вялікі удалы вынік і асягненьні, дзякуючы нашым жанчынам, членам Сястрыцтва ўтвораным пры Прыходзе. Падрыхтоўвалі яны эстэтычна залу і буфэт са смачнымі закускамі, а пасьля разыгрывалі латарэю. У антрактах, пасьля танцаў пад музыку украінскай аркестры "Львів", сьпяваліся нацыянальныя песьні. Забавы прыносілі добрыя даходы. Дзякуем Сястрыцтву і арганізатарам. Ці не варта ладзіць іх часьцей.

Прысутны.

## 1000 ГОД ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ-ЮБІЛЕЙНАЯ ПАШТОЎКА З БССР

Згуртаваньне Беларусаў ў В. Брытаніі выдала ў 1980 годзе дзве юбілейныя паштоўкі ананімнага мастака тайна выкананыя ў БССР прысьвечаныя 1000-годзьдзю гісторыі Беларусі. Паштоўкі апрацаваны вельмі артыстычна. Адна на чырвоным фоне з напісам " Найлепшых зычэньняў у юбілейным годзе", у сярэдзіне-дзяржаўны гістарычны гэрб Пагоня з напісам на эмблеме"Беларусь", а па баках " 980-1980". На нізе сілуэты цэркваў і палацаў. Другая паштоўка на белым фоне Пагоня і напісы залатымі літарамі.

## АХВЯРЫ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД " ЗВАНІЦЫ"

| | | | |
|---|---|---|---|
| Лёндан | 6 Ф.50 п. | ЗША /П-ч/ | 5.Дал. |
| Лёндан /Л-к/ | 1.Ф.50 п. | Аўстралія /А-ы/ | 2 Дал. |
| ЗША /С-ч/ | 3 Ф.51 п. | Канада /С-кі/ | 15 Дал. |
| Аўстралія /З-й/ | 7 Ф.42 п. | | |
| Аўстралія /К-н/ | 9 Ф.73 п. | | |
| Разам | 28 Ф.66 п. | Разам | 22 Дал. |

Усім ахвярадаўцам Рэдакцыя складае шчырае дзякуй.

Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: 1, CRAIG PARK ROAD,
EDMONTON N.18.
LONDON. U.K.




The views expressed by the individual contributors do not necessarily reflect editorial opinion.



Periodical magazine of the Byelorussian Social Club in London.